№ 36 (921) 30 верасня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я Б Е Л А Р У С К А Я Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

## У Сапоцкіне прайшоў хрэсны ход пад расійскімі імперскімі сцягамі з удзелам памежнікаў

Хто ж прынёс сцягі? **Старонка 6.**



# Лукашэнка звазіў Колю ў ААН

Дзяржаўныя СМІ поўняцца заклікамі галасаваць, зрабіць свой выбар, выканаць грамадзянскі абавязак, тым часам інтэрнэт абляцела фота Мікалая Лукашэнкі ў складзе дэлегацыі Беларусі на Генеральнай Асамблеі ААН. Сусветная прэса адгукнулася іранічнымі каментарамі пра наймалодшага дэлегата ў гісторыі Аб'яднаных Нацый.




Візіт Лукашэнкі на сесію Генеральнай Асамблеі ААН разглядаць без прывязкі да цяперашніх выбараў немагчыма. **Старонка 3.**

Валер Кавалеўскі: «Гэта недарэчна, канечне. Такога не дазваляюць сабе кіраўнікі іншых краін». **Старонка 3.**

## Шымон Перэс: **Трэба марыць пра большае**

Экс-прэзідэнт Ізраіля выступіў з прамовай, у якой даў надзею Украіне і Беларусі.

92-гадовы Шымон Перэс, дзявяты прэзідэнт Ізраіля і ўраджэнец беларускага Вішнева, прамовіў адзін з самых матывуючых, на думку ўдзельнікаў, спічаў Ялцінскай Еўрапейскай Стратэгіі (YES), якая прайшла нядаўна ў Кіеве. Ён казаў пра ляноту, смеласць і дзёрзкасць надзеі.

«Мы марылі аб сваёй зямлі, але зямля, якую мы атрымалі, не была марай. Гэта быў маленькі кавалачак, адна тысячная частка Блізкага Усходу. Балоты, камары, пустыня на поўдні, камяні. Выбіраць трэба было паміж камарамі і камянямі. На ёй было два возеры — адно мёртвае, другое вымірала. Была знакамітая рака — але і ў ёй вады не было. Гэта значыць, вады не было ўвогуле. Ніякіх прыродных рэсурсаў таксама не было — ні золата, ні нафты. Тады казалі, што на Блізкім Усходзе ёсць два тыпы краін — краіны нафтавыя і краіны святыя. Наша была абсалютна святая, таму што наогул нічога не было.

І мы падумалі: самае вялікае багацце прыроды — гэта чалавек. Людзі ўзбагацілі зямлю, а не зямля народ.

Мы ўсе сталі навукоўцамі. Кожны фермер у Ізраілі, кожны кібуц пачаў глядзець, як развіваць сельскую гаспадарку без вады, без зямлі. Мы пачалі развіваць яе. Гэта была першая сельская гаспадарка ў свеце, заснаваная на хай-тэку.

Другое — паколькі ў нас не было зброі, мы пачалі яе вырабляць. Каб удасканальваць армію, нам давялося развіваць IT. Ізраільскі IT-сектар працаваў на войска.

Патэнцыял ва ўсіх людзей — вельмі вялікі. Але ўсе яны трошкі гультаяватыя. Калі хочаце чагосьці дамагчыся, трэба працаваць. Нічога не падае з неба. Мы ў Ізраілі вельмі шмат працавалі. Што ў гэтым дрэннага? Не ведаю... Людзі ідуць у адпачынак — гэта пустая трата часу. Мне ўжо 90, і я ніколі не быў у адпачынку. Мне кажуць: «Ты што, ненармальны? Як жа ты адпачываеш?» А я лепш буду працаваць. Я ад працы атрымліваю радасць. І не будзьце песімістамі — гэта таксама пустая трата часу, асабліва калі часы мяняюцца.

Трэба ісці за навукай. У навукі няма межаў, абмежаванняў, навука не мае рэфлексіі. Не спрабуйце вырашыць праблемы мінулага, я не ведаю, ці магчыма гэта наогул. Мінулае наогул не грае ніякай ролі. Проста вывучыце яго, каб вы не паўтаралі старых памылак. У мінулым няма ні будучыні, ні надзеі.

Людзі баяцца чагосьці... Толькі Бог ведае, што з намі будзе.

Мяне пытаюцца часам: калі азірнуцца назад, якімі былі вашы самыя вялікія памылкі? Я адкажу: мы думалі, што ў нас вялікія мары. А цяпер мы разумеем, што яны былі не такімі ўжо вялікімі. Трэба марыць пра большае. Чым большая ваша мара, тым большага вы дамажацеся.

Гэта ўсё ўрокі, якія я сам вынес з мінулага.

Яшчэ людзі пытаюць мяне, як заставацца актыўным. Гэта вельмі проста. Лічыце у розуме вашыя дасягненні і мары. Калі вашых мараў больш, чым дасягненняў — значыць, вы ўсё яшчэ маладыя. Калі наадварот — вы старыя».

**Пераклала Юлія Бальцэвіч**

## Статкевіч збірае народ пад Ратушай

Сустрэчы з выбарцамі запланаваныя і на 4 і 10 кастрычніка. **Старонка 2.**

## «І на гэта патрацілі мільёны даляраў?»

«Мы, браты». Не, мы не браты. **Старонка 12.**

## Брытвы будуць лазернымі

Стартаперы з Каліфорніі выпусцілі прататып. **Старонка 9.**

## Нямое каханне

У Мінску ідзе першы беларускамоўны спектакль са стрыптызам. **Старонка 13.**

# Тры прычыны, чаму Беларусі не патрэбна расійская авіябаза

«Без каментароў» — ужо месяц чуеш па тэлефоне ад прэс-сакратара Мінабароны Беларусі, калі пытаеш яго пра планы Расіі размясціць у нас у краіне авіябазу.

Пачалося гэта 2 верасня. Урад Расіі вырашыў накіраваць праект пагаднення пра авіябазу на подпіс Уладзіміру Пуціну. Праз дзень абвясцілі, што пагадненне ўхвалена і пайшло прэзідэнту. Яшчэ праз некалькі дзён апублікавалі яго праект, па словах яго складальнікаў, «папярэдне апрацаваны» з Мінскам. Затым новае паведамленне: Пуцін праект зацвердзіў і накіраваў яго ў сваё Мінабароны, каб весці перамовы з беларускімі калегамі. Навошта, узнікае пытанне, столькі шуму, калі яшчэ нават перамовы не завершаныя, а можа быць — і не пачатыя?

На днях яшчэ адна навіна: расійская «Независимая газета» са слоў неназваных ваенных крыніц піша, што пагадненне амаль гатова, падпішуць у найбліжэйшы час, авіябаза з'явіцца ў Бабруйску ўжо са студзеня 2016 года.

Можа быць, гэтая чарада паведамленняў да завяршэння перамоў — чыстая выпадковасць, а не спроба націснуць на Аляксандра Лукашэнку напярэдадні выбараў і ў вельмі, скажам мякка, няпросты эканамічны момант. Можа быць, і нядаўнія словы пасла Расіі аб новым магчымым крэдыце для Беларусі і праве пакідаць у сваім бюджэце нафтавыя мыты з гэтым таксама ніяк не звязаныя.

Пакінем тактыку вядзення перамоў на сумленні партнёраў. Артыкул не пра гэта. Ён нават і не пра Канстытуцыю, якая ставіць нашай мэтай — дзяржаўны нейтралітэт. Артыкул аб трох вельмі прыземленых палітычных меркаваннях, трох прычынах, чаму расійская авіябаза незалежнай Беларусі не патрэбна.



## Прычына 1. Беларусь — не Расія

Гучыць банальна, ці не праўда? Паспрабую растлумачыць. Справа ў тым, што самы галоўны тэзіс прыхільнікаў размяшчэння расійскай авіябазы — яна абароніць нас ад злоснага НАТА, што ляскае зубамі і ракетамі ля нашых межаў.

У прынцыпе, і далёкаму ад абароннай палітыкі чалавеку зразумела, што ўзмацненне вайсковай інфраструктуры НАТА ў Германіі, Польшчы і краінах Балтыі — акцыя стрымлівання, па сутнасці, накіраваная супраць Расіі. Актывізаваліся гэтыя намаганні ў сувязі з Украінай, гэта таксама ніхто не адмаўляе. Можна ў думках займаць чыю заўгодна пазіцыю ў новай халоднай вайне Захаду і Расіі, але няма ніякіх разумных падстаў лічыць гэта нашай вайной.

Расія не раілася з Беларуссю, калі забірала Крым, не раілася, калі падтрымлівала сепаратызм ва Украіне, не раілася, калі ўвяла прадуктовае эмбарга, выстаўляючы да нас прэтэнзіі, што мы, маўляў, не вельмі ахвотна фільтруем «санкцыёнку». Балазе, у апошнім выпадку беларускае кіраўніцтва выразна заявіла, што не будзе далучацца да антызаходніх прадуктовых санкцый.

Прычым матывацыя была цалкам прагматычнай — нам, краіне гэта не выгадна. Было б лагічна кіравацца інтарэсамі нашай выгады і ў не менш важных, чым прадукты, пытаннях бяспекі.

Прыхільнікі размяшчэння базы скажуць: але гэта выгадна і нам, бо НАТА пагражае і Беларусі. Калі выключыць у галаве савецкія страшылкі, то наўрад ці гэта так. Сама сабой Беларусь ніякай пагрозы для Захаду не ўяўляе і не мусіць ёй станавіцца. Хутчэй, менавіта расійская авіябаза ў Бабруйску стане мішэнню для НАТА. Мы трапляем у зачараванае кола: рагуючыся ад міфічнай пагрозы Захаду, ператвараем яе ў рэальную.

Час, нарэшце, на 25-м годзе незалежнасці ўсвядоміць, што ў Беларусі могуць быць свае інтарэсы. Якія не заўсёды супадаюць з інтарэсамі суседзяў, нават вельмі блізкіх і родных.

## Прычына 2. Галаўны боль на дзесяцігоддзі

Як паказвае практыка, вайсковую базу лёгка размясціць. Цяжэй яе папрасіць вярнуцца на радзіму.

У апублікаваным расійскім праекце пагаднення апушчаны некаторыя ключавыя яго пункты. У чарнавіку дакумента няма інфармацыі аб тым, калі і дзе плануецца размясціць базу, колькі і якіх на ёй будзе самалётаў, якая будзе колькасць ваеннага і цывільнага персаналу. Гэта яшчэ адно ўскоснае сведчанне, што перамовы яшчэ і блізка не завершаны, бо ў пераліку неабмеркаванага — самыя прынцыповыя пункты, якія звычайна і становяцца прадметам рознагалоссяў.

Але адзін прынцыповы пункт у праекце ўсё ж паказаны — тэрмін размяшчэння базы: 15 гадоў з аўтаматычным падаўжэннем затым кожныя пяць гадоў. Калі пагадненне будзе падпісана ў найбліжэйшыя месяцы, расійская авіябаза стане ў Беларусі мінімум да 2030 года. І тое, калі потым хопіць смеласці папрасіць не працягваць дамову.

Пакінуўшы ўбаку эмоцыі, увяві на секунду, наколькі свабоднай будзе беларуская дыпламатыя ў выбары сяброў? Калі праз 10—15 гадоў беларускае грамадства будзе хацець інтэграцыі з ЕС, ці не прымусіць полк (а то і некалькі палкоў) расійскіх знішчальнікаў тагачасную беларускую ўладу думаць пра нешта іншае, а не пра волю народа?

Вельмі не хочацца праводзіць паралель з Крымам, сітуацыя цалкам не тая і наўрад ці калісьці будзе той. Але незалежна ад нашых сімпатый у спрэчцы Кіева і Масквы, крымская гісторыя стала вельмі важным прэцэдэнтам. Цяпер ні ў кога няма сумневаў, што расійскае кіраўніцтва гатове выкарыстоўваць ваенную базу ў якасці, скажам ветліва, плацдарма для аператыўнага вырашэння замежнапалітычных задач.

Узнікае пытанне: ці патрэбны суверэннай краіне ў цэнтры Еўропы такі «блакатар» любога дыпламатычнага манеўру на дзесяцігоддзі наперад?

## Прычына 3. Паўтара года дарэмных намаганняў

Мабыць, першы раз за дваццаць гадоў вербальнага супрацьстаяння ўлады і апазіцыі апошняя пагадзілася, што лінія паводзінаў афіцыйнага Мінска ва ўкраінскім крызісе — адзіна правільная.

Велізарных намаганняў беларускай дыпламатыі каштавала вытрымаць максімальна магчымую ступень нейтралітэту ў канфлікце Украіны і Расіі. Абцякальныя фармулёўкі па Крыме, непрызнанне мяцежных рэспублік Данбаса, словы пра сяброўства з усімі і светам.

У выніку адносіны з Масквой і Кіевам не папсавалі, Беларусь стала адзінай краінай на кантыненце, дзе бакі (уключаючы самаабвешчаныя ДНР і ЛНР) змаглі рэгулярна сустракацца, Мінск стаў сінонімам мірнага працэсу. Без перабольшання, гэта станоўча адбілася на рэпутацыі Беларусі, надало імпульс пацяпленню адносін з Захадам.

Нечакана Мінск, які раней ніяк інакш, акрамя «а гэта дзе, у Расіі?», за мяжой і не ўспрымаўся, змог паказаць, што ў яго ёсць уласныя інтарэсы.

А цяпер дазвольце некалькі рытарычных пытанняў. Як на гэтым іміджы адаб'ецца размяшчэнне расійскай авіябазы? Ці так ахвотна паедуць сюды перагаворшчыкі з Украіны — краіны, якая лічыць Расію агрэсарам? Ці паверыць паўднёвая суседка нашым запэўненням аб тым, што з беларускай тэрыторыі Украіне нічога не пагражае? Чым мы будзем у вачах заходніх партнёраў: нейтральнай міратворчай пляцоўкай або расійскім плацдармам у новай гонцы ўзбраенняў?

Каманда ідэолагаў у штабе Аляксандра Лукашэнкі на выбарах 2015 знайшла арыгінальны паліттэхналагічны ход. На дварэ крызіс, і, замест звыклых «За росквіт і стабільнасць», на плакатах з'явіўся лозунг «За будучыню незалежнай Беларусі». Тут і погляд наперад, і пераключэнне ўвагі.

Наўрад ці аўтары гэтага лозунга пры яго распрацоўцы меркавалі, што пад самыя выбары лёс падкіне магчымасць праверыць, наколькі ўлада сапраўды гатовая прытрымлівацца свайго новага крэда.

**Арцём Шрайбман, Tut.by**

**Пікет супраць расійскай авіябазы пройдзе 4 кастрычніка**

Яго склікаюць Мікола Статкевіч і Уладзімер Някляеў. Пройдзе ён на плошчы Свабоды як сустрэча выбарцаў а 17-й.

Да пікета ўжо паабяцалі далучыцца ўсе апазіцыйныя партыі.

Малады фронт заклікаў удзельнікаў акцыі узяць як мага больш нацыянальных беларускіх сцягоў.

Апазіцыя адзіная ў непрымannі намеру Расіі размясціць у Беларусі свае самалёты. «Гэта не проста нейкая фармальная авіябаза — гэта пэўны Рубікон, перайшоўшы які, назад вярнуцца будзе складана і каштаваць гэта будзе дорага. Мы бачым, чым абярнулася расейская база ў Крыме для Украіны і тым самым можа абярнуцца такая база для Беларусі», — мяркуе палітык Аляксей Янукевіч.

Акрамя таго, база робіць Беларусь мішэнню ў выпадку любога міжнароднага канфлікту.

## Сцісла

**Расійскае пасольства на праспекце Нямцова**

Улады Кіева плануюць перайменаваць Паветрафлоцкі праспект, на якім знаходзіцца расійскае пасольства, у праспект забітага ў цэнтры Масквы расійскага апазіцыянера Барыса Нямцова.

**Артыстка Белдзяржцырка звалілася з пяці метраў**

Надзвычайнае здарэнне адбылося ў Белдзяржцырку 27 верасня падчас паказу. Гімнастка, зрабіўшы сальта, павінна была прызямліцца ў крэсла, усталяванае на канцы далікатнай канструкцыі. Мацаванне не вытрымала. У гімнасткі ўдары і лёгкае страсенне мазгоў.

**Колькасць мігрантаў у Еўрасаюз пераваліла за паўмільёна**

Гэта ўдвая больш, чым за ўвесь 2014. Большасць мігрантаў прыбывае ў Еўропу з Сірыі.

**9-класнік атрымаў восем гадоў за згвалтаванне першакласніка ў Светлагорскім раёне**

Жудаснае злачынства адбылося ў школьным туалеце. 16-гадовага падлетка адправяць у выхаваўчую калонію, бо ён яшчэ не дасягнуў паўналецця.

Разгляд справы вёўся ў закрытым рэжыме. Пра злачынства стала вядома, калі хлопчык адважыўся расказаць аб тым, што здарылася, бацькам. Гвалтаўнік атрымаў мінімальнае пакаранне, прадугледжанае артыкулам.

**ЯМ**

## Апытанні на nn.by

**Ці падтрымліваеце Вы ідэю размяшчэння расійскай авіябазы ў Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 108 | 6% |
| Не | 1696 | 93% |
| Не вызначыўся | 17 | 1% |

Прагаласавала 1821 чалавек

## Рэкамендуем

## Дзе знаходзіцца Беларуссія?

Жартаўлівая відэаапытанка на nn.by

## Самае чытанае на nn.by за 23—29 верасня

1. 2 Беларуская дэлегацыя на сесіі Генасамблеі ААН — фота
2. 1 Мікола Статкевіч правёў шматлюдную сустрэчу з выбарцамі ў Мінску
3. 3 Віталь Цыганкоў. Тры маленькія хлусні Тацціны Караткевіч
4. 4 Лукашэнка ў Нью-Ёрку — фоты
5. 5 «І на гэта патрацілі мільёны даляраў?» — у Мінску прэзентавалі фільм «Мы, браты»
6. 6 Мова наша. Як сказаць па-беларуску «общаться»
7. 7 Байкеры на чале з Віктарам Лукашэнкам закрылі мотасезон пад выступ «Іванушак International»
8. 8 Лукашэнка ў ААН: Навошта распялі прэзідэнта Кадафі? Потым ірванулі ў Сірыю? Навошта забіваеце людзей?
9. 9 У другім тэлезвароце Тацціяна Караткевіч заклікала жанчын правесці выбары сумленна
10. 10 «Уже бобёр мешает»: топ цытат з новага выступу Улаховіча

# Лукашэнка звазіў у ААН Колю

Перад выбарамі кіраўнік краіны пабываў у Нью-Ёрку.

Візіт Лукашэнкі на сесію Генеральнай Асамблеі ААН разглядаць без прывязкі да цяперашніх выбараў немагчыма. Гэта іміджавая рэч, як і нядаўні візіт у Кітай. Маўляў, Беларусь важная ў геапалітычным плане краіна, якую прымаюць на розных канцах свету.

Лукашэнка прабыў у Нью-Ёрку трое сутак. Афіцыйная дэлегацыя гэтым разам была не надта шматлікай: міністр замежных справаў Уладзімір Макей, прэс-сакратарка Наталля Эйсмант, сын Мікалай ды дыпламаты, што працуюць у ЗША.

Свет абляцелі здымкі, дзе 11-гадовы Мікалай Лукашэнка і Уладзімір Макей з сур'ёзнымі тварамі сядзяць на пасяджэнні ААН пад шыльдай «Belarus». І смех і грэх.

Чаму Лукашэнка працягвае браць з сабой сына? З аднаго боку, магчыма, Мікалаю цікава было паглядзець Нью-Ёрк, ЗША. З іншага — хай спачатку гэта шмат у чым і выглядала недарэчным — прывучае да палітыкі, спадзяецца перадаць сыну ўладу.

Выступаючы з трыбуны ААН, Лукашэнка бэсціў заходні свет. «Навошта забілі Садама Хусэйна?» — пытаўся ён у неназванага адрасата. «Вы — вінаватыя — скажыце, што памыліліся, трэба было б спыніцца, але зноў жа — не, пайшлі далей. Пачалі з Туніса і скончылі Лівіяй. Сцэнар той жа. Укрыжавалі прэзідэнта Кадафі, знішчыўшы дзяржаву. У Лівіі стала лепш? Не. І дзе гэтая Лівія наогул як цэласная дзяржава?» — адзначыў Лукашэнка.


Крысціна Лягард і Аляксандр Лукашэнка сустрэліся ўпершыню.

Таксама ён заклікаў свет дапамагчы ў спыненні вайны ва Украіне. Калі гэта не адбудзецца, то можа здарыцца новая сусветная вайна. Лукашэнка нават пашкадаваў аб развале Савецкага Саюза. Многія эксперты адзначалі, што прамова кіраўніка Беларусі павінна была спадабацца Расіі.

Не менш важнай была сустрэча з дырэктаркай-распарадчыцай Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) Крысцінай Лягард. Яна парэкамендавала Аляксандру Лукашэнку «пераарыентаваць палітыку» краіны. Беларусь хоча атрымаць ад МВФ новы крэдыт у памеры 3 мільярдаў даляраў.

Скончыўся ж візіт Лукашэнкі афіцыйным прыёмам ад імя прэзідэнта ЗША.

**Зміцер Панкавец**

## Валерый Кавалеўскі: Добра, што Лукашэнка з'ездзіў у ААН

Былы супрацоўнік Міністэрства замежных спраў, удзельнік Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА) Валерый Кавалеўскі адказаў на пытанні.



**«Наша Ніва»: Якую мэту праследваў Аляксандр Лукашэнка, калі накіроўваўся на сесію Генеральнай Асамблеі ААН? Здаецца, ён не быў там шмат гадоў.**

**Валерый Кавалеўскі:** Ён быў дзесяць гадоў таму — ездзіць на юбілейныя сесіі. Тут важная і ААН як шматбаковая платформа для абмеркавання пытанняў, але асабліва важныя двухбаковыя сустрэчы. Тут можна сустрэцца з прадстаўнікамі краін, з якімі ў іншых умовах сустрэцца не заўсёды магчыма. Афіцыйныя крыніцы паведамляюць пра правядзенне сустрэч з прадстаўнікамі Дзярждэпартамента ЗША, МВФ, еўрапейскіх краін.

**«НН»: Ці можа даць нейкі вынік сустрэча з прадстаўнікамі МВФ?**

**ВК:** Пытанне да беларускай дзяржавы. Ці знойдуць яны ў сабе сілы, жаданне, каб ажыццяўляць рэформы. Маё вока зачапіла тое, што афіцыйныя крыніцы адкрыта казалі пра ацэнкі МВФ адносна Беларусі, рэкамендацыі пераарыентаваць эканоміку. Раней усё гэта не агучвалася, у нас было ўсё добра.

**«НН»: А як можна ацаніць прамову Лукашэнкі. Многім падалося, што яна гаварылася, каб спадабацца Расіі?**

**ВК:** У гэтым і сэнс шматбаковай дыпламатыі, калі кіраўнікі дзяржаў павінны казаць словы, што адпавядаюць іх інтарэсам. Калі Лукашэнка выказваўся аб пытаннях сям'і, аб навязванні мадэлях дзяржаўнасці, казаў шчыра, аб чым баліць. Разам з тым у кулуарных размовах з прадстаўнікамі заходніх краін словы выбіраюцца іншыя. Не выключаю, што магло нават абмяркоўвацца пытанне размяшчэння расійскай авіяцыйнай базы ў Беларусі. Для ўнутранай аўдыторыі ён павінен быць паслядоўным. Увогуле, Лукашэнка любіць гаварыць тое, што спадабаецца публіцы. У ААН таксама шмат краін незадаволеных прасоўваннем дэмакратыі .

**«НН»: Прамовы ў ААН робяцца для ўнутранага спажыўца ці свету?**

**ВК:** Прамова Абамы была для іншых краін, яго задача была задаць тон міжнародных адносін сёння. У Абамы вымалёўваецца строгая лінія, што пытанні трэба вырашаць дыялогам, а не зброяй. «Мы гатовы супрацоўнічаць і з Расіяй, і з Іранам, і з Кубай», — казаў Абама. Дыпламатыя — замест вайны.

Але гэта не беларускі выпадак. Мы больш зацыкленыя на сваім рэгіёне. Не думаем, што адбываецца ў Лацінскай Амерыцы, Афрыцы.

У ЗША вельмі шмат абмяркоўваецца сустрэча Абамы і Пуціна. Яна застаецца цэнтральнай у СМІ. Бо на гэтай сустрэчы абмяркоўваліся пытанні Сірыі і Украіны.

**«НН»: Гэты візіт Лукашэнкі можна разглядаць як працяг перадвыбарчай кампаніі?**

**ВК:** Гэта вельмі добра выглядае, салідна і нават свежа для нашай нават нецікавай часам знешняй палітыкі.

**«НН»: А як тады выглядае прысутнасць малодшага сына Лукашэнкі на пасяджэнні?**

**ВК:** Гэта недарэчна, канечне. Такога не дазваляюць сабе кіраўнікі іншых краін. Я ніколі з такім не сутыкаўся. Гэта выглядае дзіўна — прывесці сваю сям'ю на пасяджэнне.

**«НН»: Якія галоўныя вынікі можна зрабіць з паездкі?**

**ВК:** Відавочна, што ў яго шмат мёртванароджаных ініцыятываў. Напрыклад, інтэграцыя інтэграцый. Калі Лукашэнка гаворыць пра традыцыйную сям'ю, то ён вельмі адстае ад сусветных тэндэнцый. Калі гаворыць пра спробы навязвання дэмакратыі, то амерыканцы нічога не навязваюць. Яны кажуць проста — выконвайце свае заканадаўства. У Лукашэнкі застаецца кандовы падыход да свету вакол яго, ён не бачыць, чым свет яму можа дапамагчы.

Што тычыцца двухбаковых сустрэч, то гэта застаецца крыху за дужкамі, мы пра гэта даведаемся пазней. Але тая траекторыя, якую мы бачым, што Захад гатовы ўспрымаць Лукашэнку такім, які ён ёсць, будзе захоўвацца. Будзе больш увагі таму, каб сам рэжым змяняўся, разам з Лукашэнкам, каб адпускаліся нейкія гайкі, каб былі паляпшэнні ў палітыцы і эканоміцы.

Добра, што ён там быў, паўдзельнічаў. Многія краіны не ўдзельнічалі, мо не змаглі набраць шмат двухбаковых цікавых сустрэч. З Беларуссю гатовы сустракацца — і гэта добра. На такіх важных мерапрыемствах наша прысутнасць павінна быць абавязковай.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Украінская дэлегацыя ў ААН разгарнула перад Пуціным сцяг з Ілавайска

Прастрэлены сцяг украінскія салдаты вывезлі з Ілавайска, дзе ў жніўні 2014 ішлі жорсткія баі паміж украінскай арміяй і расійскімі сіламі з самаабвешчанай «Данецкай народнай рэспублікі».

«Наша дэлегацыя выйшла з залы падчас выступу таварыша Пуціна. На балконе перад ім быў разгорнуты сцяг Украіны з Ілавайска! Хай бачыць», — напісаў у сваім твітары пастаянны прадстаўнік Украіны пры ААН Юрый Сяргееў.

Падчас выступу Пуціна ўкраінская дэлегацыя пакінула залу Генеральнай асамблеі ААН. Раней тое ж зрабіла дэлегацыя Расіі падчас выступу прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі. Тады ў зале застаўся толькі адзін расійскі дыпламат.



# Мікола Статкевіч правёў шматлюдную сустрэчу з выбарцамі ў Мінску

Экс-кандыдат у прэзідэнты запрашаў на сустрэчу і **Аляксандра Лукашэнку**.

Але ён прадказальна не прыехаў, і, як толькі званы на Ратушы пачалі біць шостую гадзіну, Мікола Статкевіч сам распачаў зварот да людзей з мегафонам у руках. Былы палітвязень пытаўся ў людзей: ці мае права быць прэзідэнтам чалавек, які дбае пра ўласную ўладу, а не пра лёс краіны? Ці можа быць прэзідэнтам чалавек, які пераўтварае беларусаў у «рускіх са знакам якасці»? Людзі гуртам адказвалі «не», а потым пачалі скандаваць «Жыве Беларусь!».

Неўзабаве Статкевіч перадаў слова Уладзіміру Някляеву і Анатолю Лябедзьку, якія зрабілі акцэнты на выбарчым фарсе, рэпрэсіях і недапушчэнні прысутнасці расійскіх войскаў у Беларусі.

Дзесьці праз 30 хвілін ад пачатку акцыі пляцоўка перад Ратушай цалкам запоўнілася. Як потым казалі людзі з задніх шэрагаў, ім нават было кепска чуваць прамоўцаў. На сход сабралася каля 400—500 чалавек. Больш шматлюдных сходаў у часе гэтай выбарчай кампаніі нават ні адзін з кандыдатаў не збіраў. Лунала некалькі бела-чырвона-белых сцягоў, пару сцягоў АГП і Еўрасаюза.

З улікам таго, што трое спікераў выступалі па чарзе, у час прамовы аднаго да другога падыходзіў міліцыянт і складаў пратакол за незаконнае правядзенне пікета. Спачатку афіцэр склаў пратакол на Статкевіча, але той адмовіўся яго падпісваць, аргументаваўшы, што нічога не парушае. А калі міліцыянт падышоў да Уладзіміра Някляева, то народ хорам пачаў крычаць «Ганьба!» у бок міліцыі, якая «не паважала народ, які сабраўся паслухаць палітыкаў».



svaboda.org (RFE/RL)



Было відаць, як хвалюецца міліцыянт, якога адправілі складаць пратаколы: падчас запаўнення ў яго моцна трэслася рука.

Акцыя ж скончылася тым, што палітыкі заклікалі ўсіх прысутных на наступныя сходы — 4 і 10 кастрычніка. Анатоль Лябедзька да таго ж папрасіў людзей прыходзіць наступны раз з трыма сябрамі.

Зборшага прыйшлі людзі сярэдняга і сталага веку, моладзі было няшмат. Тым не менш акцыя каля Ратушы — найбуйнейшая і самая масавая за лета і восень.

**Арцём Гарбацэвіч, Мікіта Недаверкаў**

**Скарына Піцерскі**

## Улаховіч зблытаў баптыстаў з ісламістамі



Кандыдат у прэзідэнты Мікалай Улаховіч падчас анлайну на сайце *naviny.by* патлумачыў, чаму ён лічыць баптыстаў небяспечнымі. Пра небяспеку баптыстаў Мікалай Улаховіч заявіў падчас свайго першага тэлезвароту на «Беларусь-1».

«Я іх не абражаў. Мала таго, фраза прагучала няпоўнасцю. Там было больш дакладнае вызначэнне. І гаворка ішла не пра баптыстаў, а пра накіраванасць. А за ёй я хацеў падкрэсліць, што меў на ўвазе большай часткай рэлігію мусульман, звязаную з ІДІЛ (Ісламскай дзяржавай). Вось і ўсё».

### …і мяркуе, што Багдановіч польскі паэт

Чытач спытаўся ва Улаховіча: «Думаю, што казакі і асабіста Вы ўсё ж памылкова запісалі аўтара «Пагоні» Максіма Багдановіча ў польскія паэты? (з Вашага папярэдняга выступу)».

Улаховіч рашуча адказаў: «Абсалютна не памыляюся. Сам бачыў помнік Максіму Багдановічу на тэрыторыі Польшчы як польскаму паэту». Відаць, Улаховіч зблытаў Багдановіча з Міцкевічам.

Іншы чытач спытаўся: «Калі ёсць беларуская казакі, то чаму да гэтага часу няма беларускіх каўбояў?»

«Чаму, ёсць і беларускія каўбоі. Пастухі. Яны пасвяць статак», — адказаў Улаховіч.

**ЯМ**

## Караткевіч, відаць, не аддадуць передвыбарчы час Лукашэнкі

Сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік паведаміў, што ў заканадаўстве не прадугледжаная перадача тэлевыступаў ад адных кандыдатаў у прэзідэнты іншым. Так ён пракаментаваў просьбу, якую перадаў у ЦВК штаб Таццяны Караткевіч.

Як паведамлялася раней, 25 верасня ў Жлобіне Аляксандр Лукашэнка заявіў, што яму не патрэбны час на тэлевыступы кандыдатаў. Ён заявіў, што гэты час могуць выкарыстоўваць іншыя кандыдаты, калі пажадаюць. Штаб кандыдаткі Таццяны Караткевіч падаў у ЦВК просьбу перадаць ёй нявыкарыстаны кандыдатам Лукашэнкам эфірны час. Разам з тым штаб Караткевіч гатовы падзяліць гадзіну тэлеэфіру з іншымі кандыдатамі.

«Я думаю, тут найперш трэба, каб Аляксандр Рыгоравіч пацвердзіў свой намер перадаць камусьці гэты час. Гэта яму выдзелены. І калі ён вырашыў падараваць яго камусьці... Хаця паводле закону гэта не прадугледжана — ён сам павінен выступаць», — кажа Лазавік.

**«Еўрарадыё»**

## Ярмошына вынесла Давыдзьку «строгае папярэджанне»

Праграма «Клуб рэдактараў» з удзелам старшыні Белдзяржтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі была запісаная 11 верасня. У праграме абмяркоўвалася выбарчая кампанія, кандыдаты і іх праграмы. Аднак ад 10 верасня ён з'яўляецца даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі, і паводле Выбарчага кодэкса Генадзь Давыдзька не меў на гэта права.

Па словах старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, яны атрымалі скаргу ў сувязі з парушэннем Генадзем Давыдзькам выбарчага заканадаўства і адрэагавалі на гэта.

«Генадзю Браніслававічу было зробленае мной строгае папярэджанне. Лічыце, што гэта было персанальнае папярэджанне старшыні Цэнтральнай камісіі. Гэта — прафілактычная мера ўздзеяння. А вам трэба, каб я яго падвергла расстрэлу за гэта?» — кажа Ярмошына.

## Рух «За свабоду» прапануе апазіцыі аб'ядноцца

Выступіць адзіным блокам на парламенцкіх выбарах і вылучыць адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх.

Рада Руху «выказвае глыбокае шкадаванне, што дэмакратычныя праеўрапейскія сілы не змаглі вылучыць адзінага кандыдата на прэзідэнцкую выбарчую кампанію — 2015». «Гэта кансервуе існуючую сітуацыю ў Беларусі, пашырае расчараванне і апатыю ў грамадстве, пазбаўляе беларусаў каштоўнай альтэрнатывы», — гаворыцца ў заяве, распаўсюджанай 27 верасня.

Рух «заклікае прабеларускія і праеўрапейскія партыі і арганізацыі зрабіць працу над памылкамі і аб'ядноцца на аснове нацыянальных інтарэсаў». «На парламенцкіх выбарах 2016 гэтыя сілы павінны выступіць адзіным блокам, а на наступных прэзідэнцкіх выбарах — вылучыць свайго кандыдата», — прапаноўвае «За Свабоду».

Пры гэтым «ва ўмовах эканамічнага крызісу і замежнай пагрозы суверэнітэту рух «За свабоду» гатовы вітаць дзеянні кіраўніцтва краіны, накіраваныя на ўмацаванне незалежнасці Беларусі і збліжэнне з цывілізаваным светам».

## З'явіўся новы хіт пра Лукашэнку



Віцебскі выканаўца шансону Ілля Смунёў запісаў кліп на сваю новую песню «Куды бацька — туды я». На *YouTube* кліп быў выкладзены 16 верасня.

Як пішуць «Народныя навіны Віцебска», Смунёў пачынаў сваю творчасць як выканаўца каляблатных песень. Але ў апошнія гады ён піша ідэалагічна правільныя творы. Напрыклад, ён напісаў неафіцыйны гімн патрульна-паставой службы міліцыі.

Тэкст песні, выпушчанай у свет напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, не вызначаецца мудрагелістасцю:

Снова солнце день зажжет.
Хлеб поднимется, взойдет.
А мы вместе все идем
К плечу плечом.

Наши деды и отцы
Эту землю сберегли.
На которой мы живем
И здесь наш дом.

Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я.

Нам быть вместе суждено —
Если все мы заодно,
Наша родная земля —
Мы за тебя.

В каждом сердце берегут
То, что родиной зовут.
Беларусь — страна моя.
Ты для меня.

Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я.

Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я. Куды батька — туды я.
Куды батька — туды я…

# Заробкі змяншаюцца ўжо нават у рублях

**По велічыні зарплаты беларусы апусціліся ў Еўропе на трэцяе месца з канца.**

Перад прэзідэнцкімі выбарамі заробкі беларусаў зменшыліся. У даляравым выражэнні гэта адбываецца чацвёрты месяц запар, а вось у рублёвым — упершыню. Белстат падлічыў, што кожны работнік атрымаў «чыстымі» крыху менш за 6 мільёнаў рублёў.

Па цяперашнім курсе даляра заробак беларуса — гэта ўсяго $340 у эквіваленце. Для параўнання, за месяц да папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў лічба складала $410.

Тады, у 2010 годзе, дабрабыт беларусаў быў лепшым, чым у некаторых «новаеўрапейцаў» — краін, якія толькі-толькі ўступілі ў Еўрасаюз. Цяпер жа, пасля праведзеных дэвальвацый, сярэдні заробак у Беларусі апусціўся ніжэй за балканскія краіны і займае трэцяе месца з канца ў Еўропе. Горш толькі ва Украіне і Малдове.

У табліцы сістэматызаваныя сярэднія зарплаты «чыстымі» (пасля сплаты падаткаў) у краінах постсацыялістычнага лагера.

**Ягор Марціновіч**

| № | Краіна | Заробак чыстымі (у еўра) | Актуальнасць дадзеных |
|---|---|---|---|
| 1 | Славенія | 1005 | ліпень |
| 2 | Эстонія | 871 | другі квартал |
| 3 | Харватыя | 753 | ліпень |
| 4 | Чэхія | 737 | другі квартал |
| 5 | Славакія | 708 | жнівень |
| 6 | Польшча | 684 | жнівень |
| 7 | Латвія | 606 | чэрвень |
| 8 | Літва | 544 | першы квартал |
| 9 | Венгрыя | 514 | ліпень |
| 10 | Чарнагорыя | 476 | ліпень |
| 11 | Боснія і Герцагавіна | 428 | ліпень |
| 12 | Румынія | 417 | ліпень |
| 13 | Расія | 381 | жнівень |
| 14 | Сербія | 373 | жнівень |
| 15 | Косава | 368 | чэрвень |
| 16 | Македонія | 357 | ліпень |
| 17 | Албанія | 350 | першы квартал |
| 18 | Балгарыя | 348 | чэрвень |
| 19 | Беларусь | 331* | жнівень |
| 20 | Азербайджан | 323 | чэрвень |
| 21 | Арменія | 316 | ліпень |
| 22 | Грузія | 314 | другі квартал |
| 23 | Малдова | 195 | ліпень |
| 24 | Украіна | 141 | жнівень |

* пасля праведзенай дэвальвацыі сярэдні заробак у Беларусі адкаціўся да 300 еўра




На карце — чысты заробак у еўра.

## Для высокага заробку — кітайская мова

**Топ-5 самых высокааплатных вакансій краіны.**

Далёка не ўсе скардзяцца на малы заробак. У базах дадзеных ёсць вялікая колькасць высокааплатных вакансій. Вось толькі патрабаванням адпавядаюць не ўсе патэнцыйныя работнікі.

«Наша Ніва» склала спіс самых дарагіх вакансій краіны.

### 1. Дырэктар кампаніі — $2800

Самыя вялікія грошы — 50 мільёнаў — гатовы плаціць «Цэнтр бізнэс-рашэнняў» свайму новаму дырэктару. Кампанія займаецца кансультаваннем бізнэсу. Каб прэтэндаваць на месца, трэба мець тры гады вопыту дырэктарскай працы.

### 2. Прэзідэнт Беларусі — $2600

Гэтае месца працы становіцца вольным пасля 11 кастрычніка. Паводле леташняй дэкларацыі, Аляксандр Лукашэнка атрымліваў 46 мільёнаў рублёў штомесяц. Ці індэксаваўся сёлета заробак, невядома.

### 3. Топ-менеджар беларуска-кітайскай кампаніі — $2250-2550

Адразу тры вакансіі выставілі прадпрыемствы, зарэгістраваныя ў Беларуска-кітайскім індустрыяльным парку ў Смалявіцкім раёне. Генеральнаму дырэктару, а таксама двум начальнікам аддзелаў гатовыя плаціць па 40—45 мільёнаў рублёў. Неабходнае веданне англійскай мовы, але гэта яшчэ паўбяды. Тых, хто валодае кітайскай мовай, у Беларусі надзвычай мала. А гэта абавязковая ўмова для працаўладкавання.

### 4. Праграміст — каля $2000

Паколькі прадукцыя беларускіх IT-кампаній арыентаваная на экспарт, то і заробкі часцяком прывязаныя да валюты.

Паводле Белстата, сярэдняя зарплата ў сферы, «звязанай з вылічальнай тэхнікай», дасягнула 28,5 мільёна рублёў — гэта больш за $1600 у эквіваленце.

### 5. Галоўны інжынер на АЭС — $1700

Адказную працу інжынера-энергетыка на будоўлі пад Астраўцом ацэньваюць на 30 мільёнаў рублёў.

**ЯМ**

## Топ-20 самых прыбытковых кампаній з адкрытай справаздачнасцю

Вынікі другога квартала 2015 года.

| № | Кампанія | Прыбытак (мільёны доляраў) |
|---|---|---|
| 1 | Беларуськалій | 458,8 |
| 2 | Газпром трансгаз Беларусь | 171,3 |
| 3 | Мазырскі НПЗ | 163 |
| 4 | Прыёрбанк | 45,9 |
| 5 | Беларусбанк | 42,2 |
| 6 | Банк развіцця | 39,8 |
| 7 | Белгазпрамбанк | 36,1 |
| 8 | Віцебскэнерга | 31,7 |
| 9 | Пінскі КХП | 26,6 |
| 10 | Гомельтранснафта Дружба | 24,3 |
| 11 | Гомельэнерга | 23,1 |
| 12 | Белаграпрамбанк | 20,9 |
| 13 | Банк БелВЭБ | 19 |
| 14 | Гродна Азот | 17 |
| 15 | Еўрагандаль | 14,4 |
| 16 | 558 АРЗ | 14 |
| 17 | Прамагралізінг | 13,3 |
| 18 | Пеленг | 12,6 |
| 19 | МЗКТ | 12,1 |
| 20 | Беларуская чыгунка | 11,3 |

## Расія абурылася беларускай папаяй

Расійскія чыноўнікі звярнуліся ў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі з просьбай растлумачыць паходжанне папаі, а таксама цытрусавых і бахчавых з краіны.

Адзначаецца, што пастаўкі салаты-латук, цытрусавых, бахчавых, папаі, яблыкаў і іншай прадукцыі беларускага паходжання ўзраслі больш чым у два разы. Рассельгаснагляд звяртае таксама ўвагу на тое, што «вырабленую» ў Беларусі прадукцыю пастаўлялі ў нехарактэрны перыяд выспявання.

Што ж адбылося з папаяй?

За студзень-ліпень 2015 года ў Беларусь было імпартавана 26,3 тоны папаі (93% з Бразіліі, 7% з Эквадора). Цікава, што ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года абароты павялічыліся ў 20 разоў. Кожны кілаграм каштаваў $1,57.

Пасля абсалютная большасць тавару перапрадавалася ў Расію. На ўсход было пастаўлена 24 тоны экзатычных фруктаў, але ўсяго толькі па $0,24 за кілаграм.

**ЯМ**



**Папая (дыннае дрэва)**

Вечназялёнае дрэва вышынёю 4—7 м, без галін. На верхавіне — разетка з буйнога лісця на доўгіх чаранках. Плод — ягада (даўжынёй да 30 см, маса 3—6 кг), падобная на дыню.

Радзіма — Цэнтральная Амерыка. Культывуецца ў трапічных краінах Амерыкі, Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі.



**Венгры спраектавалі Нацыянальны стадыён**

Венгерская архітэктурная кампанія *4D Architects* апублікавала эскізы Нацыянальнага футбольнага стадыёна ў Мінску, які плануецца пабудаваць у парку 50-годдзя Кастрычніка.

Як мяркуецца, кошт будаўніцтва складзе 81 мільён еўра. Генпадрадчыкам мае быць беларуская кампанія.

# У Сапоцкіне прайшоў хрэсны ход пад расійскімі імперскімі сцягамі з удзелам памежнікаў

Хто ж іх прынёс?

13 верасня ад Гродна да мястэчка Сапоцкін прайшла працэсія ў гонар 101-й гадавіны цудоўнага аб'яўлення Прасвятой Багародзіцы ў Аўгустоўскіх лясах. У мерапрыемстве ўдзельнічала чалавек 70. Здавалася б, нічога асаблівага, але ўдзельнікі мерапрыемства выкарыстоўвалі расійскія імперскія сцягі — чорна-жоўта-белыя.

«НН» паспрабавала высветліць, хто ж прынёс гэтыя штандары на шэсце. Перш-наперш мы патэлефанавалі кіраўніку «Нёманскіх казакаў» атаману Уладзіміру Адамаву. «Не, гэта не нашы сцягі. Мы неслі царкоўную харугву. Мабыць, нехта з прыезджых», — адказаў спадар Адамаў.

Бацюшка з Сапоцкіна, іерэй Васіль Татарчук, з сумам аднёсся да таго, што некаторыя ўдзельнікі хрэснага ходу спрабавалі палітызаваць мерапрыемства.

«Зразумейце, мне трэба падрыхтавацца да набажэнства, вячэру нагатаваць. Я не ў стане прасачыць, хто робіць такія правакацыі. Былі і раней падобныя інцыдэнты палітызацыі царкоўных спраў, я размаўляў з людзьмі. Насамрэч, не настолькі важна, пад якімі сцягамі ідуць людзі ў царкоўных шэсцях, абы яны былі шчырымі хрысціянамі», — айцец Васіль прамаўляе на цудоўнай беларускай мове.

Іерэй Васіль Татарчук гаворыць, што дома ў яго вісіць украінскі жоўта-блакітны сцяг, бо адукацыю святар атрымліваў у Кіеве. «У мяне нават некаторыя казакі пыталіся: што гэта такое? Я сказаў, што пагляду сваіх мяняць не буду».

Бацюшка лічыць, што сцягі, найхутчэй, прывёз нехта з Мінска. Сапраўды, у шэсці ўдзельнічалі прадстаўнікі арганізацыі «Казацкі Спас».

Кіраўнік «Казацкага Спаса» Пятро Шапко прызнаў, што сцягі сапраўды неслі людзі з яго арганізацыі. «Мы з Мінска прыехалі, што далі нам у рукі, тое і неслі».

Пікантнасць сітуацыі дадае тое, што ў хрэсным ходзе ўдзел бралі прадстаўнікі Гродзенскай пагранічнай групы. У пагранічнікаў наладжаны даўні кантакт з праваслаўнай царквой. Ісці ў адной калоне з «імперскімі» сцягамі памежнікі не адмовіліся.

«Зразумейце, калі вы прыходзіце да некага ў госці, а там хтосьці напіваецца і дэбашырыць, вы ж не вінаватыя, — кажа прэс-сакратар Памежнага камітэта Аляксандр Цішчанка. — Памежнікі ж не неслі гэтыя сцягі, яны там займаліся справамі духоўнымі. А пачынаць разборкі, нейкія бойкі ладзіць на такой акцыі, напэўна, не вельмі правільна. Ёсць бок, які запрашае на такое мерапрыемства, ён і мусіць адказваць за выкарыстанне сімволікі. Для памежнікаў ёсць толькі адзін сцяг — дзяржаўны беларускі».

Спадар Цішчанка кажа, што ў памежнікаў няма ніякага пагаднення з казакамі. На жаль, атрымаць непасрэдны каментар ад удзельніка таго шэсця, намесніка начальніка пагранічнай групы па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Максіма Літвінскага, не атрымалася. Другі дзень запар яго працоўны нумар радуе толькі доўгімі трэлямі — слухаўку ніхто не бярэ.

Напрыканцы мы яшчэ зрабілі адзін званок у Гродзенскую епархію, каб даведацца стаўленне царквы да гэтай падзеі. Айцец Яўген Павяльчук, які адказвае за адносіны епархіі з Узброенымі сіламі, адказаў: «Сцяг з'явіўся таму, што шэсце было ў памяць аб падзеях Першай сусветнай вайны, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Расійскай Імперыі. Гэта сцяг даўно памерлай імперыі», — сказаў Павяльчук.







На пытанне, ці ўсё ж яны прынеслі гэтыя сцягі, быў адказ: «Вы думайце галавой — царква прынесла толькі царкоўныя харугвы».

Дык а хто прынёс? «Пытайцеся ў тых, хто прынёс», — лаканічна адказаў святар і паклаў слухаўку.

Варта адзначыць, што чорна-жоўтa-белы сцяг выкарыстоўваўся ў XIX стагоддзі як гербавы сцяг Расійскай Імперыі. Сёння яго на ўзбраенне ўзялі расійскія шавіністы, , што хочуць далучэння Беларусі да Расіі.

**Зміцер Панкавец, Арцём Гарбацэвіч**

# Байкеры на чале з Віктарам Лукашэнкам закрылі мотасезон

…пад выступ «Іванушак International».




Свята закрыцця мотасезона *Harley-Davidson HOG Rally Belarus* прайшло ў суботу 26 верасня. Скончылася ўсё ўрачыстым феерверкам.

Калона матацыклістаў у суправаджэнні ДАІ праехала ад Кургана Славы да Палаца спорту. Адметна, што сярод удзельнікаў быў старэйшы сын Лукашэнкі Віктар, памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі.

Завяршылася мерапрыемства выступленнем расійскага гурту «Іванушкі International».

**ЯМ**

## Першая мемарыяльная дошка «абаронцу Наваросіі» адкрыта ў Расіі

У Алтайскім краі сваякі і знаёмыя загінулага на ўсходзе Украіны баевіка Івана Каралькова ўсталявалі мемарыяльную дошку ў двары яго дома на станцыі Азяркі.

Побач было пасаджана восем дрэў — па колькасці загінулых на ўсходзе Украіны ўраджэнцаў Алтая.

Ініцыятары мемарыяла з рэгіянальнай арганізацыі ветэранаў Афганістана і іншых лакальных войнаў называюць яго «першай у Расіі памятнай дошкай у гонар загінулага героя Наваросіі».

Іван Каралькоў служыў у танкавых войсках, ваяваў пад Луганскам, а загінуў 28 студзеня 2015 года падчас баёў за Дэбальцава.




**АГ**

## Расійскі пасол заявіў, што Польшча вінаватая ў пачатку Другой сусветнай вайны

У інтэрв'ю, якое транслявалася тэлекампаніяй *TVN24* у пятніцу ўвечары, пасол Сяргей Андрэеў заявіў, што палітыка польскіх уладаў прывяла да катастрофы ў верасні 1939 года, бо на працягу 1930-х гадоў Польшча неаднаразова блакавала стварэнне антыгітлераўскай кааліцыі.

Таму, паводле яго слоў, Польшча часткова вінаватая ў трагедыі.

Сяргей Андрэеў заявіў таксама, што ў 1939 годзе Савецкі Саюз дзейнічаў у мэтах самаабароны, таму ўварванне СССР у Польшчу не можа лічыцца агрэсіяй.

У інтэрв'ю польскаму тэлебачанню Андрэеў таксама паскардзіўся на тое, што польска-расійскія адносіны цяпер горшыя, чым калі-небудзь за папярэднія 70 гадоў, бо Варшава выбрала замарозку палітычных і культурных кантактаў краін.

Польскі МЗС у суботу выказаў свае «здзіўленне і трывогу» словамі расійскага дыпламата, заявіўшы, што пасол «падрывае гістарычную праўду» і, «відаць, спрабуе апраўдаць злачынствы сталінізму».

«Пункт гледжання, агучаны самым высокім прадстаўніком расійскай дзяржавы ў Польшчы, падрывае гістарычную праўду і адлюстроўвае самую крывадушную інтэрпрэтацыю падзей, вядомых яшчэ з часоў сталінізму і камунізму», — гаворыцца ў заяве Міністэрства замежных спраў Польшчы.



«Мы расцэньваем гэта як непавагу да памяці ахвяр злачынстваў НКВД, учыненых па загадзе савецкіх уладаў», — заявіў польскі МЗС.

Пасля ўварвання савецкай арміі ў Польшчу больш за 200 тысяч польскіх вайскоўцаў было адпраўлена ў ГУЛАГ, больш за 20 тысяч было расстраляна ўвесну 1940 года супрацоўнікамі НКВД у Катыні.

Прэм'ер-міністр Польшчы Эва Копач таксама выказала сваё незадавальненне заявамі расійскага дыпламата.

«Роля акрэдытаванага ў краіне пасла павінна быць у тым, каб будаваць гарманічныя і сяброўскія адносіны паміж краінамі», — нагадала кіраўнік польскага кабінета міністраў.

Адказваючы на пытанне пра выказванні расійскага пасла, Эва Копач заўважыла: «Нават дзеці ведаюць, што ні Рыбентроп, ні Молатаў не былі палякамі».

**Бі-бі-сі**

# Статкевіч схадзіў у тэатр. Яго віталі апладысментамі

Пра выпадак, што здарыўся 28 верасня ў Мінску, напісаў тэатральны крытык Вячаслаў Ракіцкі.

«Калі Мікола Статкевіч увайшоў у залу на прэм'еры спектакля «Што рабіць з тыграм?» Славаміра Мрожака ў прыватным «Тэатры Ч» людзі прывіталі яго апладысментамі. Цікава і прыемна, што тэатральная публіка пазнае і вітае сённяшняга лідара апазіцыі», — напісаў Ракіцкі.

Пасля спектакля Статкевіч пайшоў за кулісы і сфатаграфаваўся з акцёрамі.



## Надзея Каткавец і Генадзь Давыдзька выйшлі на пенсію

Адразу два запамінальныя персанажы беларускага наменклатурнага асяродку 29 верасня 2015 года дасягнулі пенсійнага веку.

Старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзю Давыдзьку спаўняецца 60 гадоў, а намесніцы кіраўніка справаў прэзідэнта Надзеі Каткавец — 55 гадоў.

## У збіцці графіціста Следчы камітэт крыміналу не знайшоў



Яраславу Ульяненкаву, аднаму з затрыманых па «справе графіцістаў» (№35), адмовілі ў завядзенні крымінальнай справы ў дачыненні да міліцыянтаў.

У паперы за подпісам А.Вераб'я, старшага следчага Фрунзенскага раённага аддзела Следчага камітэта, паведамляецца, што па факце збіцця пры затрыманні праведзена праверка. Па выніках гэтай праверкі ў завядзенні крымінальнай справы адмоўлена, бо ў дзеяннях міліцыянтаў адсутнічаў склад злачынства.

Яраслаў плануе абскардзіць адмову.

Да таго ж абвінавачаныя і падазраваныя па «справе графіцістаў» накіравалі скаргу кіраўніку Следчага камітэта і ў Генпракуратуру на публікацыю, размешчаную на сайце Следчага камітэта пад назвай «Следчым камітэтам працягваецца расследаванне крымінальнай справы аб хуліганскіх дзеяннях і пашкоджанні маёмасці ў сталіцы».

Максім Пякарскі, Вадзім Жаромскі, Вячаслаў Касінераў і Яраслаў Ульяненкаў расцэньваюць навіну на сайце Следчага камітэта як прамое парушэнне іх прэзумпцыі невінаватасці і права на абарону, а таксама як абразу іх гонару і годнасці.

**Улад Швядовіч**

## У Мінску спевака з Расіі паранілі бульбай у вока

Канцэрт у Мінску расійскага поп-гурту *MBAND* скончыўся надзвычайным здарэннем. У аднаго з салістаў з залы шпурнулі вялікую бульбіну.

Як паведамляюць у сацыяльных сетках відавочцы, якія прысутнічалі на канцэрце, пацярпелым аказаўся ўдзельнік калектыву Уладзіслаў Рам. Клубень рассёк яму брыво, пачаўся крывацёк.

У сацыяльных сетках ужо звязваюць здарэнне на канцэрце ў Мінску з планамі Крамля размясціць у Беларусі расійскую ваенную авіябазу, хоць наўрад ці гэта можа мець сувязь. Мабыць, гэта звычайнае хуліганства.



## На вуліцах Мінска з'явіліся ўлёткі «Рускі салдат, ідзі дамоў»

Беларусы пратэстуюць супраць стварэння на тэрыторыі краіны расійскай авіябазы.

Ва ўлётцы прыводзіцца цытата з Канстытуцыі аб імкненні Беларусі да нейтральнага і бяз'ядзернага статусу.

«Сваімі агрэсіўнымі дзеяннямі, накіраванымі супраць Украіны, Расія прадэманстравала гатоўнасць выкарыстоўваць свае ваенныя базы супраць краін, якія дапусцілі іх з'яўленне на сваёй тэрыторыі», — гаворыцца ў ёй.

**СГ**

## Жыхарка Баранавіч правалілася ў адкрыты люк на гарадскім рынку

Падчас моцнага дажджу 26 верасня на Кааператыўным рынку ў Баранавічах былі адкрытыя каналізацыйныя люкі для зліву вады.

У адзін з іх і правалілася 55-гадовая Людміла Станкевіч. Ішоў моцны дождж, і пад вадой адкрытага люка відаць не было.

«Я спакойна ішла паўз крытыя павільёны і проста звалілася ў гэты люк! Шчасце, што локцямі зачапілася і правалілася толькі па пояс, а не цалкам», — распавяла газеце *Intex-press* Людміла.

Работнікі рынку распавялі Людміле, што літаральна за паўгадзіны да здарэння яны хадзілі да адміністрацыі рынку і прасілі, каб люка абгарадзілі. Аднак адміністрацыя іх просьбу праігнаравала.

Жанчына патрабуе ад адміністрацыі рынку кампенсацыі за маральную і матэрыяльную шкоду. Калі не сплацяць, яна гатовая пайсці ў суд.

**СГ**




**Пайшлі ў продаж рамкі для аўтанумароў з беларускім арнаментам**

Рамкі — пластмасавыя, стандартнага памеру, малюнак нанесены пры дапамозе шаўкаграфіі. У наяўнасці два варыянты арнаменту. «Малюнак надрукаваны якасна, не сціраецца, вытрымлівае любыя мыйкі і вільгаць», — кажуць у інтэрнэт-краме *Symbal.by*, якая іх прадае.

## Фізкультуру ў школах зробяць безацэначнай?

Міністэрства адукацыі Беларусі ў бліжэйшы час прааналізуе арганізацыю адукацыйнага працэсу па фізічнай культуры. Пра гэта заявіла начальнік упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Мінадукацыі Святлана Уклейка падчас анлайн-канферэнцыі на тэму «Роля настаўніка ў сучасным грамадстве» на сайце БелТА.

«Размовы аб тым, што гэты прадмет трэба зрабіць безацэначным, ідуць даўно і тэма досыць бурна абмяркоўваецца ў нас і ў Міністэрстве спорту і турызму. Пакуль мы не прыйшлі да канчатковай думкі», — сказала Святлана Уклейка.

Начальнік упраўлення таксама пракаментавала сітуацыю, калі школьнікі, маючы падрыхтоўчую групу, нароўні з усімі здаюць нарматывы.

«Калі ў дзіцяці падрыхтоўчая група, гэта азначае, што пэўныя віды дзейнасці ён проста не павінен выконваць. Адпаведна ў настаўніка ў абавязковым парадку павінны быць звесткі аб стане здароўя навучэнцаў. Дзіця не здае пэўныя нарматывы ў залежнасці ад захворвання. То бок не абавязкова, што будзе забаронены бег», — сказала Святлана Уклейка. Таксама яна адзначыла, што дзіця можа прабегчы з той сілай, якую дазваляе яго стан здароўя, і яму паставяць не 10, а 8. У гэтым няма нічога страшнага, бо дзесяцібальная сістэма прадугледжвае адзнакі ад 1 да 10, і яны ўсе станоўчыя. «Напэўна, праблемы ў гэтым ніякай няма», — сказала Святлана Уклейка.

**БелТА**

## Мядзведзеў хоча, каб Беларусь адмовілася ад сваіх візаў

Прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў прапануе ўвесці адзіную візу саюзнай дзяржавы. З такой ініцыятывай ён выступіў у Маскве на пасяджэнні савета міністраў саюзнай дзяржавы.

«Думаю, мы цалкам можам на гэта пайсці», — заявіў прэм'ер-міністр Расіі.

**СГ**



# Найвялікшая яхта этнічнага беларуса сёння каштуе столькі ж, колькі флагман флоту РФ

У свой час на пабудову «Пятра Вялікага» **спатрэбілася 30 мільярдаў** расійскіх рублёў.

Нядаўна *Dailymail* паведаміла, што ў свет выйшла найбуйнейшая ветразевая яхта, замоўца якой — расійскі бізнэсмен Андрэй Мельнічэнка (ураджэнец Беларусі).

Даўжыня яхты складае 142 метры, вышыня — 91 метр. На ёй восем палуб, адна з якіх знаходзіцца пад вадою.

Паводле папярэдняй інфармацыі, кошт «Ветразевай яхты А» ацэньваецца ў суму, трохі большую за 400 мільёнаў даляраў.

Пры гэтым звяртае ўвагу, што флагман расійскага флоту, атамны ракетны крэйсер «Пётр Вялікі», сёння каштуе параўнальна столькі ж, колькі «Ветразевая яхта А».

Нядаўна кошт «Пятра Вялікага» ацанілі ў суму каля 422 млн даляраў.

**Арцём Гарбацэвіч**



# У Расіі выходзіць мульцік для дзяцей пра захоп Смаленска «палякамі»

Мяркуецца, што мультфільм будзе **ў пракаце і ў Беларусі**.

З 29 кастрычніка пачнецца пракат мультфільма пад назвай «Крэпасць». У фільме акрэсліваюцца падзеі вайны 1609—1618 гадоў паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. У мультфільме разгортваюцца падзеі аблогі Смаленска.

Так апісваюць сам фільм яго стваральнікі: «Польскае войска стаіць пад сценамі Смаленска — горад у аблозе. Але ваявода Шэін і яго салдаты не маюць намеру здавацца. А калі б не памочнікі пекара Філімона — хлопчыкі Сашка і Фёдар, польскі цар увайшоў бы ў горад даўным-даўно. Фёдар уладкоўваецца пісарам да Дзякаў, а Сашка лепіць бомбы з цеста і спрабуе выклікаць Цара-Вогненная Дзіда на дапамогу акружаным. Трэба даведацца, хто ж здраднік, і перахітрыць падступных ворагаў».




Так расейцы пабачылі караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта Вазу.

Між тым дзяржаўныя кнігарні нядаўна пачалі продаж сшыткаў, на якіх, апроч іншых, прыстунічае Павал Сапега — выбітны дзяржаўны дзеяч ВКЛ, які ўдзельнічаў у аблозе Смаленска, дзе страціў руку.

**Мікіта Недаверкаў**



# Месі ў Барысаў не прыедзе

Атакуючы гулец «Барселоны» Ліянель Месі атрымаў траўму ў матчы «Лас-Пальмаса» (2:1) пры кантакце з абаронцам Пэдра Бігасам.

Абследаванне выявіла ў аргенцінца разрыў медыяльнай калатэральнай звязкі левага калена. Чакаецца, што футбаліст прапусціць 7—8 тыдняў, піша *Marca.es*.

Такім чынам, Месі можа прапусціць матчы групавога раўнда Лігі чэмпіёнаў супраць барысаўскага БАТЭ, якія адбудуцца 20 кастрычніка ў Барысаве і 4 лістапада ў Барселоне.

**ЛМ**

# «Известия»: Лукашэнка выдзеліў $2 млн на фільм «Нармандыя-Нёман» з Дэпард'ё

У інтэрв'ю расійскай газеце пра гэта распавёў кіраўнік Дзяржфільмфонда Мікалай Барадач, які прадстаўляе Расію ў міжнародным праекце.

Барадач дадаў, што французскі акцёр і расійскі грамадзянін Дэпард'ё не будзе граць у фільме адну з галоўных роляў.

«У Дэпард'ё будзе другарадная роля. Пакуль складана дакладна сказаць якая. Хутчэй за ўсё, ён сыграе механіка або падобнага персанажа», — падкрэсліў гендырэктар.

Пасля з'яўлення публікацыі ў газеце «Известия» і шуму ў інтэрнэце кіраўніў Дзяржфільмфонда абверг свае словы. Ён сказаў, што выдзеленая сума пакуль дакладна невядомая.

У сваю чаргу Міністэрства культуры Беларусі ад каментароў адмаўляецца.

Усяго ў Беларусі на стварэнне мастацкіх кінафільмаў выдзяляецца прыкладна 3,7 млн даляраў за год.

Нядаўна Дэпард'ё пабываў у гасцях у Лукашэнкі. Кадры з ягонага візіту фактычна выкарыстоўваліся для перадвыбарчага піяру кіраўніка Беларусі.

**СГ**

# Памёр сацыёлаг Уладзімір Абушэнка

Яму было **58 гадоў**.

Уладзімір Абушэнка нарадзіўся 22 красавіка 1957 у Пінску. Скончыў аддзяленне філасофіі гістфака БДУ (1979), затым працаваў выкладчыкам кафедры філасофіі Беларускага політэхнічнага інстытута.

З красавіка 1990 года па красавік 2002 года — дацэнт кафедры сацыялогіі БДУ.

З красавіка 2002 года — намеснік дырэктара Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі па навуковай рабоце (у красавіку-снежні 2008 года выконваў абавязкі дырэктара Інстытута).



Аляксей Ластоўскі напісаў у сваім фэйсбуку: «Абушэнка казаў, што вельмі стаміўся, хоча проста дапрацаваць да пенсіі. На здароўе не скардзіўся, як звычайна, жаліўся на адміністратыўную руціну, якая не дае яму рабіць карысныя і цікавыя рэчы. Сваю кнігу, пра якую ён даўно марыў і якой ад яго чакалі, ён так і не дапісаў.

Ды і агулам, шмат што і не зрабіў — хоць быў адной з найбольш светлых і глыбакадумных фігур у беларускай сацыялогіі. Баюся, што будзем памятаць яго не па тэкстах, а па выхаванні бліскучай плеяды вучняў.

Абушэнка заўжды мне дапамагаў і падтрымліваў. Ад самага пачатку, калі я ў якасці вясковага настаўніка гісторыі заваліўся ў Інстытут сацыялогіі — і першым хто мяне сустрэў на калідоры і рэальна дапамог быў Абушэнка.

Шкада, што такія выбітныя людзі так рана сыходзяць. Спадзяюся, у выраі яго ўжо чакае Грыцанаў з кілішкам гарэлкі».

**МБ**



# Беларуска прайшла адбор польскага шоу талентаў «The Voice of Poland»

Шматгадовая лаўрэатка фестывалю «Беларуская песня» і выпускніца Гайнаўскага беларускага ліцэя заваявала сэрцы журы польскага талент-шоу *«The Voice of Poland»*.

Маладая спявачка Рэната Тушынская сваім голасам перакanala вядомых польскіх музыкаў: Эдыту Гурняк, Анджэя Пясэчнага ды сябраў гурту *«Afromental»*.

Цяпер яе чакаюць чарговыя этапы змагання з іншымі таленавітымі выканаўцамі.

Рэната Тушынская вучыцца ў музычна-эстраднай школе і спявае ў адным з беластоцкіх блюз-пабаў.

«Спяваць у Варшаве было для мяне вельмі цяжка: вялікі стрэс і вялікая аўдыторыя, плюс славутыя асобы... Спяванне беларускай песні было вельмі важным у маім жыцці, беларуская мова больш меладычная».

Цяпер спявачка рыхтуецца да чарговага этапу талент-шоу польскага тэлебачання. Праграма з яе ўдзелам ужо ў кастрычніку.

**Радыё «Рацыя»**

# Гоша Куцэнка: «Жыве Беларусь»



Вядомы расійскі акцёр Гоша Куцэнка сфатаграфаваўся ў майцы з беларускім нацыянальным арнаментам. Здымак ён апублікаваў у сваім інстаграме. На фота разам з ім — акцёры Тэатра Массавета. «Жыве Беларусь», — напісаў Гоша Куцэнка ў каментары да здымка.

Гоша Куцэнка — расійскі акцёр, спявак, рэжысёр, сцэнарыст, прадзюсар. Заслужаны артыст Расіі. Атрымаў шырокую вядомасць дзякуючы ролям у фільмах «Мама, не бядуй», «Антыкілер», «Са мною вось што адбываецца», «Любоў-морква», «Дзікуны», «Дзёрзкія дні», «Усё могуць каралі»

Сфатаграфаваліся яны 24 верасня, пасля таго, як сыгралі ў канцэртнай зале «Мінск» спектакль-камедыю «Практыкаванні ў выдатным». У галоўнай ролі быў Куцэнка.

**СМ**

## У ЗША вынайшлі лазерную брытву



Стартаперы з Ірвіна, штат Каліфорнія, паказалі свету прататып лазернай брытвы. *Skarp* — станок, які пры судотыку з валаском акуратна зразае яго, пры гэтым атрымаць апёкі або парэзы ад лазернай брытвы немагчыма. Акрамя таго, *Skarp* папярэджвае развіццё скурных інфекцый, бо мікробы і бактэрыі паразітуюць акурат на пашкоджаных месцах скуры.

У параўнанні з аднаразовымі станкамі лазерная брытва *Skarp* не патрабуе дарагіх картрыджаў, а таксама пены або сродкаў пасля галення. Працэс ажыццяўляецца без болю, не выклікае раздражнення.

*Skarp*, кажуць вынаходнікі, таксама з'яўляецца экалагічна бяспечнай прыладай: аднаразовыя станкі — гэта пластык, на прыродную перапрацоўку якога патрэбны стагоддзі (а штогод у свеце на смецце ідзе больш за 2 млрд брытваў або прыбораў для картрыджаў), да таго ж для іх прамывання патрабуецца значная колькасць вады. *Skarp* нават прамываць пасля галення не трэба, але распрацоўшчыкі адзначаюць, што ў душы выкарыстоўваць лазерную брытву можна.

Яе корпус выраблены са сплаву 6061 алюмінію. Працуе лазерная брытва ад адной батарэі, якой хапае прыкладна на месяц.

У стварэнні лазернай брытвы ўдзельнічаў Морган Густаўсан (*Morgan Gustavsson*), які ў 1989 годзе распрацаваў тэхналогію IPL (інтэнсіўна пульсуючага святла) — яна і сёння з'яўляецца адной з найболып актуальных у выдаленні валасоў і дэрматалогіі. Ідэя лазернай брытвы ў Густаўсана з'явілася ў 2001 годзе, але тады яе рэалізацыя патрабавала зашмат выдаткаў. У 2009 годзе вучоны здзейсніў прарыў і змог падабраць даўжыню хвалі лазернага прамення такім чынам, каб ён мог выдаляць валасінкі любога колеру.

У 2013 годзе да Густаўсана далучыўся Пол Бінан (*Paul Binun*) і ўдасканаліў тэхналогію. Ва ўсіх тыпах валасінак навукоўцы выявілі храмафоры (такія групы атамаў, якія вызначаюць колер хімічнага злучэння, але могуць паглынаць электрамагнітнае выпраменьванне незалежна ад афарбоўкі гэтага злучэння) і зразумелі, што, калі ўздзейнічаць на іх лазерам, можна выдаляць валасы больш эфектыўна на скуры любога чалавека незалежна ад яго полу, расы і індывідуальных асаблівасцяў.

Каб сабраць сродкі на запуск масавай вытворчасці брытваў *Skarp*, стартаперы апублікавалі кампанію на *Kickstarter*. Першым інвестарам вечная лазерная брытва абышлася па 89 даляраў, і за 24 дні да завяршэння кампаніі на выпуск *Skarp* ужо сабрана каля $250 тысяч.

**hi-tech.mail.ru**

## Volkswagen фальсіфікаваў вынікі тэстаў сваіх машын

Audi таксама ўцягнутыя.

Акцыі нямецкага аўтамабільнага гіганта *Volkswagen AG* упалі амаль на 16% у пачатку таргоў у Франкфурце на фоне скандалу пра падробку дадзеных тэстаў на выкіды шкодных газаў у атмасферу.

Кампанія прызналася ў фальсіфікацыі дадзеных на мінулым тыдні пасля расследавання амерыканскага Агенцтва па ахове навакольнага асяроддзя, прынесла прабачэнні і пачала ўнутранае расследаванне. Падробка вынікаў тэставання закранула каля паўмільёна машын з дызельнымі рухавікамі ў ЗША.

*Volkswagen* спыніў продажы некалькіх мадэляў аўтамабіляў 2015 і 2016 мадэльнага шэрагу, але адклікаць іх пакуль не плануе.

Нізкія выкіды парніковых газаў у атмасферу былі адным з асноўных пунктаў рэкламнай кампаніі *Volkswagen*. Цяпер кампаніі пагражае штраф за кожную машыну, якой тычыцца фальсіфікацыя, што ў суме можа складаць каля $18 млрд.

У скандал уцягнутыя таксама машыны *Audi*. Следам за ЗША сваё расследаванне распачала Паўднёвая Карэя.

**СГ; інф. BBC**

## За новы iPhone у Беларусі просяць на $500 больш, чым у Германіі

У беларускіх інтэрнэт-крамах пачаліся продажы новага смартфона iPhone 6s. Гэта апараты, набытыя ў іншых краінах і завезеныя ў Беларусі.

На хвалі ажыятажу інтэрнэт-крамы просяць за самую простую мадэль каля 1065 еўра ў эквіваленце.

Для параўнання, у Германіі такі ж iPhone 6s прадаецца за 739 еўра, але з улікам вяртання tax free для беларускіх купцоў цана фактычна апускаецца да 615 еўра.

Такім чынам, розніца паміж купляй у Беларусі і Германіі дасягае 450 еўра (каля $500 у эквіваленце).

**ЯМ**

## У БДУ распрацавалі ядомую абгортку для цукерак

Упакоўка ўяўляе сабой поўнасцю біяраскладаную плёнку, якая захоўвае смак, пах і знешні выгляд прадуктаў. Таксама прадугледжана магчымасць уваздзення ў яе склад інградыентаў, якія дапаўняюць смакавыя характарыстыкі.



Навуковая распрацоўка выраблена з прыродных харчовых палімераў, «на 100% нетаксічная, біясумяшчальная і поўнасцю раскладаецца ў арганізме чалавека», гаворыцца ў паведамленні.

«Асноўай атрымання ядомых плёнак з'яўляецца агульнадаступны кукурузны крухмал, які мае нізкі кошт. Усё гэта стварае магчымасць арганізацыі канкурэнтаздольнай вытворчасці ядомых плёнак у якасці ўпаковачных матэрыялаў», — зазначыў загадчык лабараторыі раствораў цэлюлозы і прадуктаў іх перапрацоўкі НДІ ФХП Дзмітрый Грыншпан.

**БелаПАН**

## Беларусь выбрала для прышчэпак расійскую вакцыну

Сёлета для вакцынацыі супраць грыпу ў Беларусі будзе выкарыстоўвацца расійская вакцына «Грыпол плюс».

Пра гэта паведаміла намеснік начальніка аддзела гігіены і прафілактыкі Міністэрства аховы здароўя Іна Карабан.

«Грыпол плюс» выкарыстоўваецца ў Беларусі на працягу апошніх пяці гадоў, аднак высокая цана не дазваляла ёй выйграваць тэндар на масавую закупку вакцын. Сёлета была прапанавацая цана ніжэйшая, чым у кампаніі, якая пастаўляла кітайскую вакцыну («Флювaксін»), якую мы выкарыстоўвалі з 2010 года», — дадала спецыяліст.

Яна падкрэсліла, што «Грыпол плюс» адносіцца да субадзінкавых вакцын, якія ўтрымліваюць толькі паверхневыя бялкі, і «па мінімуме выклікае пабочныя рэакцыі». Супрацьпаказаннямі для прымянення з'яўляюцца алергічныя рэакцыі на папярэднія вакцынаванне супраць грыпу, а таксама алергія на курыны бялок, адтэрмінаваным супрацьпаказаннем — вострыя фазы захворванняў.

Вакцынацыя супраць грыпу праводзіцца ў Беларусі ў кастрычніку—лістападзе.

Акрамя «Грыпола плюс» сёлета будуць даступныя вакцыны «Ваксігрып» (Францыя), «Інфлювак» (Нідэрланды), «Ультравак» (Расія), «Флювaксін» (Кітай). Кошт вакцынацыі для насельніцтва складзе арыенціровачна ад 90 да 150 тысяч.

**БелаПАН**

Кіно

## Пенсіянер у стартапе

**Стажор**
**Жанр:** камедыя, драма
**Рэжысёр:** Нэнсі Маерс
**У ролях:** Роберт дэ Ніра, Эн Хэтэўэй Рэнэ Русо, Андэрс Холм, Джо Джо Кушнер, Эндру Рэнэлс, Адам Дзівайн, Зак Перлман, Джэйсан Орлі
**Адзнака:** 8

70-гадовы ўдавец Бэн Уітакер пасля шматгадовай працы на прадпрыемстве выходзіць на пенсію. Зразумеўшы, што жыццё на гэтым не скончанае, ён падарожнічае па свеце. Вярнуўшыся дахаты ў Бруклін, усё-такі сумуе без хоць якога занятку. Тым часам у новым стартапе — інтэрнэт-краме па продажы адзення — абвяшчаюць нечаканую акцыю: набіраюць пенсіянераў. Бэн прапануе сваю кандыдатуру і становіцца стажорам у маладой таленавітай кіраўнічкі кампаніі Джулс Осцін.

Фільм зняты па арыгінальным сюжэце галівудскай сцэнарысткі і рэжысёркі Нэнсі Маерс («Чаго хочуць жанчыны», 2000). Паспяховую кіраўнічку стартапа сыграла Эн Хэтэўэй («Інтэрстэлар» (2014), «Адрынутыя» (2012) — узнагарода «Оскар-2013»), а роль самотнага пенсіянера дасталася легендарнаму Роберту дэ Ніра, на рахунку якога больш за сто роляў і два «Оскары».

Лёгкі, душэўны стыль з доляй добрага жыццёвага гумару ўласцівы стужкам Нэнсі Маерс. Тут яна закранула і некаторыя сацыяльныя праблемы: неабходнасць адчуваць увагу да сябе і быць некаму патрэбным, дзяліцца сваім досведам — для людзей сталага веку, перагружанасць сучасных бізнэсвумен, адданасць ідэям і недахоп часу для ўласнай сям'і — для маладых талентаў. У стужцы паказаная гісторыя паспяховага суісванвання і супрацы адкрытых свету людзей розных пакаленняў.




Фільм выйшаў добры і пазітыўны, пасуе для сямейнага прагляду.

**Настасся Уласава**

# Народ, які абрынуў мур

3 кастрычніка 2015 года Германія святкуе 25-годдзе аб'яднання.

Дзень нямецкага адзінства (*Tag der Deutschen Einheit*) — ад 1990 года нацыянальнае свята Германіі. Яно адзначаецца ў адпаведнасці з Дамовай аб аб'яднанні Германіі: 3 кастрычніка 1990 года Германская Дэмакратычная Рэспубліка ўвайшла ў склад Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.

Спачатку нацыянальнае свята аб'яднанай краіны меркавалася прызначыць на 9 лістапада — дзень падзення Берлінскай сцяны, якая на дзесяцігоддзі падзяліла нямецкі народ на дзве часткі. Аднак паколькі гэты дзень быў звязаны з цёмнымі перыядамі ў гісторыі Германіі (піўны путч у 1923 годзе і лістападаўскія пагромы 1938), для новага дзяржаўнага свята была абраная іншая дата — 3 кастрычніка, калі адбылося канчатковае аб'яднанне дзвюх нямецкіх дзяржаў.

Аб'яднання ў адну краіну немцы чакалі 40 гадоў. Нагадаем, што пасля Другой сусветнай вайны тэрыторыя Германіі была фактычна падзелена на дзве часткі: адна трапіла пад кіраўніцтва СССР, другую кантралявалі ЗША, Вялікабрытанія і Францыя. У 1949 годзе на нямецкіх тэрыторыях, размешчаных на амерыканскай, брытанскай і французскай зонах, узнікла Федэратыўная Рэспубліка Германія. У тым жа годзе 7 кастрычніка на савецкай зоне акупацыі была абвешчана Германская Дэмакратычная Рэспубліка (ГДР) са сталіцай у Берліне (дэ-факта — ва ўсходняй частцы горада). На працягу наступных сарака гадоў абедзве нямецкія дзяржавы існавалі паралельна, і да пачатку 1970-х гадоў у ФРГ не прызнавала ГДР.

Берлін, як і ўся краіна, быў таксама падзелены на дзве часткі. У 1961 годзе мяжа паміж нямецкім Усходам і Захадам была замацавана легендарнай сцяной, якая праходзіла праз увесь горад. Прычына ўзвядзення высокага мура, які пільна ахоўваўся з сацыялістычнага боку, была банальная: немцы масава беглі ў ФРГ. Нават сцяна не магла іх спыніць: спецслужба ГДР «Штазі» рэгулярна выяўляла падкопы.

ФРГ мела нашмат вышэйшы ўзровень жыцця. Дзякуючы дапамозе з боку ЗША па плане Маршала, а таксама ў выніку рэалізацыі планаў эканамічнага развіцця краіны, распрацаваных пад кіраўніцтвам Людвіга Эрхарда, у 1950-я гады ў ФРГ быў дасягнуты хуткі рост эканомікі (германскі эканамічны цуд), які доўжыўся да 1965 года. Для задавальнення патрэбаў у таннай працоўнай сіле ФРГ падтрымлівала прыток гастарбайтараў, у асноўным з Турцыі. Быў працягнуты і ўнутрапалітычны курс, звязаны з дэнацыфікацыяй, то бок ліквідацыяй наступстваў знаходжання нацыстаў ва ўладзе, недапушчэннем адраджэння нацысцкай ідэалогіі і арганізацый. У 1955 годзе ФРГ увайшла ў НАТА.

У сваю чаргу СССР паціху рэфармавалі ГДР «пад сябе». Была праведзеная нацыяналізацыя большай часткі прадпрыемстваў, і пачалося стварэнне сельскагаспадарчых кааператываў, накшталт калгасаў. Пачаў стварацца культ асобы камуністычных ідэолагаў: у 1953 Хемніц быў перайменаваны ў Карл-Маркс-Штат, плошча Ландсбергера ў 1968 годзе стала называцца плошчай Леніна, на якой быў усталяваны помнік Леніну. З'явіўся аналаг КГБ — Міністэрства ўнутранай бяспекі, больш вядомае як «Штазі».

Пры гэтым тэрыторыя Германіі, на якой знаходзілася ГДР, найбольш пацярпела падчас вайны. Да таго ж Савецкі Саюз паўплываў на тое, каб адной з галоўных мэтаў развіцця сацыялістычнай Германіі быў уздым цяжкай прамысловасці. Плюс мілітарызацыя ва ўмовах халоднай вайны і рэпарацыі, якія ГДР плаціла таму ж СССР... У выніку ўжо праз некалькі гадоў гэта прывяло да крызісу — пэўныя прадукты выдаваліся па картках, пачалася «ўцечка мазгоў».

У 1953 годзе рабочым ГДР павысілі нормы выпрацоўкі, што выклікала абурэнне, а 17 чэрвеня 1953 у Берліне каля 150 000 чалавек узяло ўдзел ва ўсеагульным страйку. Хваля страйкаў пракацілася і па іншых гарадах і мястэчках, у Берліне і яшчэ 167 раёнах на тыдзень увялі надзвычайнае становішча. Як мяркуюць гісторыкі, гэта паўплывала на суверэнітэт ГДР, які быў абвешчаны ў 1954 годзе. Але гэта толькі на паперы, дэ-факта ж краіна заставалася еўрапейскім фарпостам сацлагера.

Цікава, што ў параўнанні з СССР жыццё ў ГДР было адносна ліберальным — там захоўвалася шматпартыйная сістэма, не было ганенняў на царкву.

Аб'яднанню Германіі папярэднічаў крызіс у ГДР. Грамадзяне пачынаючы ўжо з 1988 года ўсе больш і больш выступалі супраць рэжыму. У Лейпцыгу, у Дрэздэне праводзіліся так званыя дэманстрацыі па панядзелках, калі народ моўчкі збіраўся і праходзіў па галоўнай плошчы, нічога не кажучы, але тым самым дэманструючы сваё стаўленне да ўлады і жаданне пераменаў. Пасля з'явіўся лозунг «*Wir sind das Volk!*» («Мы ёсць народ!»), а потым ён змяніўся на лозунг «*Wir sind ein Volk!*», што азначае «Мы адзіны народ!». Першапачаткова пратэст быў скіраваны на тое, каб атрымаць больш самастойнасці, свабоду ад кіруючага рэжыму ўнутры Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Пасля, з 1989 года, людзі пачалі выказвацца за аб'яднанне з заходняй часткай.

Праз некалькі дзён пасля адзначанага з помпай 40-годдзя Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, 17 кастрычніка, генеральны сакратар ЦК САПГ (Сацыялістычная адзіная партыя Германіі, нямецкі аналаг камуністычнай партыі) Эрых Хонэкер быў зняты з усіх пасадаў. А яшчэ праз месяц, у лістападзе 1989, адбылася падзея, якая стала ключавым прологам да аб'яднання Германіі — падзенне Берлінскай сцяны.

Аб'яднанне Германіі адбылося праз 11 месяцаў пасля гэтага. Яму папярэднічала рашэнне ўрада ГДР адкрыць мяжу з Заходнім Берлінам. Гэта адбылося 9 лістапада 1989 года. Неўзабаве пасля падзення сцяны (па-нямецку *Mauerfall*) пачаліся перамовы па формуле «два плюс чатыры» паміж прадстаўнікамі дзвюх нямецкіх дзяржаў і дзяржаў пераможцаў у Другой сусветнай вайне: СССР, ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі.

Ідэю аб'яднання адстойваў канцлер ФРГ Гельмут Коль, ён здолеў пераканаць кіраўніка СССР Міхаіла Гарбачова і амерыканскага прэзідэнта Джорджа Буша-старэйшага. Славутая «жалезная лэдзі» Маргарэт Тэтчэр, якая была англійскім прэм'ерам, і французскі лідар Франсуа Мітэран спачатку ставіліся да ідэі скептычна — аб'яднанне дзвюх Германій парушала Ялцінскія пагадненні 1943 г. і стварала легальны прэцэдэнт для іх далейшага перагляду.

Але іх удалося пераканаць, і ў выніку 12 верасня 1990 міністры замежных спраў шасці краін падпісалі ў Маскве «Дамову аб нямецкім адзінстве». А 3 кастрычніка ГДР спыніла сваё існаванне, стаўшы часткай ФРГ.

Шматгадовы падзел краіны не застаўся без наступстваў. І яшчэ ў нямецкім грамадстве захоўваюцца мянушкі «оссі» і «вэссі» — адпаведна, заходнія і ўсходнія немцы. Але разам з тым уз'яднанне Германіі дазволіла стварыць найбуйнейшую эканоміку Еўропы. Паводле ВВП Германія першая ў Еўразоне і чацвёртая ў свеце.

Аб'яднанне Германіі дазволіла стварыць і найбуйнейшую краіну Заходняй Еўропы па насельніцтве — у ФРГ жыве каля 80 мільёнаў чалавек. Германія з'яўляецца рухавіком Еўрапейскага Саюза, уваходзіць у «Вялікую сямёрку». Пра поспех краіны сведчыць той факт, што Германія з'яўляецца другой ў свеце краінай па папулярнасці іміграцыі пасля ЗША. Яна займае 6-е месца ў свеце, згодна з індэксам развіцця чалавечага патэнцыялу.

Германія — постіндустрыйная краіна. Яе эканоміка — гэта эканоміка паслуг і эканоміка ведаў. Доля паслуг у ВУП краіны складае 80%. Акрамя таго, ФРГ займае адно з лідзіруючых месцаў у свеце па аб'ёмах экспарту. І гэта пры тым, што краіна амаль не мае карысных выкапняў — выключэнне складае вугаль.

Таксама Германія — адзін з лідараў Еўрапейскага Саюза. Яна забяспечвае каля 20% бюджэту ЕС, падтрымлівае працэсы пашырэння сувязяў паміж краінамі Еўропы, надае асаблівую ўвагу падтрымцы слабейшых краінаў. Без перабольшання, Еўрапейскага Саюза магло б не быць, каб у далёкім 1990-м адзін народ не дабіўся падзення мура, які дзяліў іх краіну на дзве часткі.

**Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску**

**УНП 101166185**

# Забіў брата і ягоную жонку, бо тыя абражалі маці

Берасцейцу **пагражае расстрэл.**

«Я яго не хацеў забіваць. Хацеў пакараць, як раней», — расказвае ў судзе сваю гісторыю 47-гадовы Аляксандр, якому пагражае смяротнае пакаранне. Свайго старэйшага брата ён звычайна «караў» за п'янства і непаважлівае стаўленне да хворай маці, якая апошнія месяцы не ўставала з ложка. І калі першае яшчэ мог даравацьь, то з другім не зміріўся. Год таму падчас чарговага «пакарання» Аляксандр збіў свайго сваяка да смерці, а затым задушыў яго жонку. Цела мужа і жонкі ён закапаў у хляве і 9 месяцаў маўчаў. «Калі б не знайшлі іх, я б там так і жыў. Ажаніўся б і жыў», — як быццам шкадуе абвінавачаны.

«Я разы тры яму капаў. Вельмі горача было», — распавядае абвінавачаны, як выкопваў у хляве каля дома магілу для свайго брата і яго жонкі, якіх напярэдадні пазбавіў жыцця.

— Выкапалі. Далей што? — пытаецца дзяржабвінаваўца.

— Вокны фарбаваў.

— Пачакайце... Вы выкапалі яму і пайшлі вокны фарбаваць?

— Так.

— А чаму?

— Я пачаў... І хацеў дафарбаваць вокны. (*Маўчанне.*)

— Так, добра... Доўга вокны фарбавалі?

— Ой, яшчэ нават у верасні фарбаваў...

— Не, у той дзень. Калі цела перанеслі?

— Уначы перацягнуў. Хадзіў, фарбаваў, выкопваў яму, зноў фарбаваў, зноў выкопваў. А ўжо ноччу перацягнуў.

### «Як толькі мяне не было, дык ён на маці...»

47-гадовы Аляксандр быў судзімы толькі аднойчы — у 1986 годзе за хуліганства. Пасля гэтага не прыцягваўся. Апошнія пяць гадоў жыў у доме ў Брэсце з састарэлай маці, старэйшым братам і яго жонкай. Мама ў мінулым годзе цяжка захварэла і не магла сама перасоўвацца па хаце, патрэбен быў пастаянны догляд. Аляксандр аформіў на сябе апеку і атрымліваў дапамогу па доглядзе. У вольны час неафіцыйна падпрацоўваў садоўнікам.

Са старэйшым братам у Аляксандра былі нацягнутыя адносіны. Міхаіл перабіваўся на падпрацоўках, часта піў. Аднак больш за ўсё абвінавачанага злавала, калі сваяк абражаў маму. За гэты Аляксандр перыядычна караў свайго брата збіццём.

«Як толькі я сыходзіў, ён на маці [накідваўся з абразамі]. Я аўтарэгістратар паставіў і ўсё запісваў. Родны сын на маму брыдкасці казаў. І так пастаянна. Як толькі мяне не было, дык ён на маці...» — тлумачыў абвінавачаны.

### «Зайшоў, ударыў, задушыў»

Днём 2 жніўня мінулага года Аляксандр фарбаваў вокны. Да дому падышоў старэйшы брат з жонкай. Міхаіл быў п'яны. Зноў паміж братамі ўзнікла сварка, і Аляксандр некалькі разоў ударыў яго кулаком у твар. Затым за каўнер адцягнуў у хлеў. Што было далей, на судзе ён «забыўся», тым не менш падчас следства апісваў, як нанёс яму два ўдары па галаве чыгуннай батарэяй. Пасля гэтага пайшоў, пакінуўшы Міхаіла ў хляве. Ад атрыманых траўмаў мужчына памёр. Жонка Міхаіла ўвесь гэты час сядзела ў пакоі.

Ноччу Аляксандр прыйшоў па яе. «Выйшаў пакурыць. Калі заходзіў, на парозе там акно (у пакой, дзе жыў Міхась з жонкай — Tut.by), тэлевізар якраз гарэў. Успомніў, што яна (жонка брата — Tut.by) пагражала мне, што не дасць жыцця».

Аляксандр зайшоў у пакой і накінуўся на жанчыну.

«Зайшоў, ударыў, задушыў», — коратка апісаў тое, што адбылося Аляксандр.

На наступны дзень ён выкапаў у хляве яму, а ўначы перацягнуў туды целы і закапаў. Затым ён узяў іх асабістыя рэчы, вывез на машыне і выкінуў на беразе ракі Мухавец — нібыта сышлі на прыроду і прапалі.

Праз два дні да дома пад'ехала сястра забітай. Саячку яна не знайшла, а Аляксандр сказаў, што не ведае, дзе яна. Тады жанчына падала заяву аб вышуку ў міліцыю.

Мужа і жонку шукалі некалькі месяцаў. Да міліцыі падключыліся валанцёры атрада «Анёл». Аднак пошукі вынікаў не давалі, а Аляксандр спакойна жыў у доме. Святло на тое, што адбылося, праліла праверка мужчыны на дэтэктары хлусні. Тэхніку Аляксандр падмануць не змог.

Цела сямейнай пары знайшлі 4 мая гэтага года, праз дзевяць месяцаў пасля знікнення. Яны былі закапаны ў хляве ля прыватнага дома на глыбіні 80 см. Толькі пасля эксгумацыі парэшткаў Аляксандр распавёў, што ж адбылося на самай справе.

### Мама так і не даведалася

Аляксандр абвінавачваецца ў забойстве з асаблівай жорсткасцю з хуліганскіх меркаванняў, асобай, якая раней здзейсніла забойства (пп. 6, 13, 16 ч. 2 арт. 139 КК). Максімальнае пакаранне, прадугледжанае дадзеным артыкулам, — пажыццёвае зняволенне або смяротнае пакаранне.

Мужчына сваю віну прызнаў часткова. Паводле яго слоў, брата ён забіваць не хацеў, а калі б Міхаіл выжыў, то і яго жонку ён бы не чапаў.

Дарэчы, мамы, аб якой так клапаціўся абвінавачаны, ужо няма ў жывых. Амаль праз два тыдні пасля злачынства, 14 жніўня мінулага года, яна пайшла з жыцця, так і не дазнаўшыся, куды прапаў яе старэйшы сын.

...Разгляд справы 47-гадовага Аляксандра працягваецца.

**Станіслаў Каршуноў, Tut.by**

## Сціісла

### Не раз'ехаўся з жонкай

37-гадовы кіроўца «Пежо» ехаў па вёсцы Заходы ў Рэчыцкім раёне. Насустрач на ровары рушыла яго 35-гадовая жонка. Абое ехалі па цэнтры праезнай часткі — і сутыкнуліся. Жанчына памерла на месцы аварыі. Муж быў цвярозым, ліхтары на вуліцы працавалі, а ровар быў абсталяваны святлоадбівальнікамі, паведамляе ДАІ.

### За забойства савы аштрафавалі на 31,5 мільёна



Паляўнічыя-мінчукі даводзілі, што выпадкова падстрэлілі вушатую саву — птушку года ў Беларусі, — пераблытаўшы з качкай. Дзяржінспектары ўбачылі і іншыя парушэнні. Паляўнічыя стралялі карцеччу і кулямі, хоць пры паляванні на дзікіх птушак дазволены выключна шрот.

### Пенсіянерка заблукала і памерла ў лесе

У лясах Расонскага раёна шукалі 71-гадовую мясцовую жыхарку, якая сышла ў ягады і не вярнулася дадому. Выратаваць жанчыну не ўдалося. На чацвёртыя суткі пошукаў бабулю знайшлі ў лесе памерлай.

### Школьнік скраў грошы ў завуча

Вучань 9-га класа адной са сталічных школ пасля заняткаў быў запрошаны да намесніка дырэктара на прафілактычную гутарку. Падчас гутаркі педагог ненадоўга адлучылася з кабінета. У гэты момант вучань з яе сумачкі, якая ляжала на стале, скраў грошы — каля 3 мільёнаў рублёў. Заведзеная крымінальная справа, школьніку пагражае да трох гадоў калоніі.

### Пасварыўся і падпаліўся

У Крычаўскім раёне 24-гадовы мужчына, знаходзячыся нападпітку, пасварыўся з сяброўкай. Пасля ён выйшаў з хаты і падпаліў сябе. Сяброўка выбегла на дапамогу, выліла на пацярпелага вядро вады, патушыла агонь і выклікала хуткую. Ён атрымаў тэрмічныя апёкі 2—3-й ступені 25% цела.

### Нажом у спіну за няўдалы жарт

Вызваліўшыся з калоніі, магіляўчанка пазнаёмілася з мужчынам і стала жыць з ім у сваёй кватэры. Падчас сумеснай п'янкі жанчына папракнула прыяцеля ў тым, што ён без дазволу ўзяў яе грошы. На што той жартам адказаў, што знайшоў іншую жанчыну, якая ставіцца да яго лепш. У парыве рэўнасці абвінавачаная, схапіўшы са стала кухонны нож, нанесла ім удар у спіну сужыцелю. Яе прысудзілі да 11 гадоў зняволення.

### Бармен краў ПІН-коды ад картак кліентаў

24-гадовы бармен у Гродне дзейнічаў у звязку са сваім старэйшым прыяцелем. Падглядалі, якія лічбы набірае кліент падчас плацяжу. Адначасова другі раз праводзілі карткай па кішэнным карт-рыдары памерам крыху больш за запальніцу. Рэквізіты рахунка заставаліся ў памяці гэтай прылады. А пазней да карткі рабілі дублікат і здымалі з яе дапамогай у банкаматах грошы. Бармену пагражае да 10 гадоў зняволення.

**ЯМ**

# Пасля аварыі кіроўца кінуў паміраць жонку і ўцёк

У начным ДТЗ **загінула двое пасажыраў.**



Жорсткая аварыя адбылася ў Мінску ў ноч на 26 верасня. Апоўначы 23-гадовы кіроўца «Хонды» Валянцін Сянько не даў рады кіраванні і пратараніў ліхтар на Партызанскім праспекце.

«У левае люстэрка ўбачыў аўто, якое хутка набліжалася і пачало рэзкае перастраенне з трэцяй паласы ў першую. Дагэтуль манёўры былі паспяховыя, але далей «Хонда» зачапіла бардзюр і яе пачало кідаць, у гэты момант адбылася аварыя», — паведаміў відавочца. Ён ехаў з хуткасцю каля 60—65 км/г, а «Хонда» была ўдвая хутчэйшай.

У машыне ехалі чацвёра. 29-гадовага мужчыну і 23-гадовую дзяўчыну, якія сядзелі ззаду, выкінула з салона. Ад атрыманых траўмаў яны памерлі. Яшчэ адзін пасажыр, 32-гадовы мужчына, які ехаў спераду, шпіталізаваны.

Загінулая дзяўчына — сужыцелька кіроўцы. У яе засталося двое малых дзяцей.

А вось кіроўца з месца здарэння ўцёк. Валянцін Сянько быў неадкладна абвешчаны ў вышук. Яму інкрымінуецца парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць двух асоб. Пакаранне за гэта — ад трох да сямі гадоў пазбаўлення волі.

На наступны дзень Следчы камітэт паведаміў, што Сянько «затрыманы пры ўдзеле ДАІ» і змешчаны ў бальніцу пад варту.

«Я сам здаўся. Прабачце за ўсё... Я не са зла, — напісаў ён з бальніцы на сваёй старонцы «Укантакце». — Лепш бы я памёр... Прыношу свае глыбокія спачуванні ўсім родным, сябрам і блізкім загінулых і параненых. Прабачце мне, калі зможаце».





Сянько напісаў, што нібыта знаходзіўся на пасажырскім крэсле і, седзячы там, на хуткасці зацягнуў ручнік. Маўляў, гэта і справакавала аварыю. Пазней гэты запіс быў выдалены.

**ЯМ**

# «І на гэта патрацілі мільёны даляраў?»

У Мінску прэзентавалі фільм «Мы, браты».

24 верасня ў Мінску адбылася прэм’ера фільма «Мы, браты», таксама вядомага як «Авель». На першы паказ з’ехалася палова Міністэрства культуры і прадстаўнікі мінскага бамонду. Перад уваходам у кінатэатр «Масква» разаслалі чырвоны дыван, а акцёры, падсвечаныя лямпамі тэлекамер, расказвалі ў інтэрв’ю пра «рускую душэўнасць», закладзеную ў фільме.

«Гэта мастацтва, гэта кіно, вы зразумееце, пра што я», — запэўніваў са сцэны прадзюсар фільма Сяргей Ждановіч. Потым прысутным паказалі крапальныя звароты амерыканскіх акцёраў, якія «не здолелі прыехаць» у Мінск.

Не з’явіліся і сцэнарыст з рэжысёрам, што выглядала даволі дзіўна для прэм’еры «нацыянальнага кінапраекта». Зрэшты, пасля прагляду ўсё стала на месца: калі б яны былі на паказе, адшукалася б нямала ахвотных падысці да гэтых людзей і спытацца: а за што тут заплацілі некалькі мільёнаў даляраў з нашых кішэняў?

Пачынаецца фільм з застаўкі «На замову Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Усе падзеі выдуманыя, супадзенні выпадковыя». Далей цытуецца Біблія, пасля чаго ў кадры з’яўляюцца сіліконавыя вусны галоўнай гераіні.

Амерыканская журналістка разам з сябрам сядзіць у кавярні правінцыйнага мексіканскага горада, тут жа нейкі мужык аблівае сябе бензінам і падпальвае. Яны кідаюцца да яго, але пад’язджае машына, у якую журналістку пачынаюць «пакаваць». Яе сябра ў гэты час заўзята адбіваецца ад зладзеяў, ламаючы ім сківіцы, але не паспявае выратаваць сяброўку і кідаецца ў пагоню, падчас якой таранiць і перакульвае машыны зламыснікаў. Беспаспяхова.

Пасля пары хвілін экшну гледачу прапануюць азнаёміцца з сюжэтам: састарэлая жанчына




даводзіць «журналістцы», што ў свеце існуюць кепскія «каініты» і добрыя «авеліты». Трэба перапраграмаваць усіх каінітаў, бо тыя запраграмаваныя на самазнішчэнне. У адваротным выпадку яны будуць пладзіцца і надыдзе канец свету.

Пасля гэтага журналістка (якую нібыта скралі) невядома як прачынаецца ў сваім ложку ў Лос-Анджэлесе ад тэлефанавання ў невядомых, якія маўчаць у слухаўку.

Ужо праз 10 хвілін прагляду рука рэфлекторна намацвае пульт і не пакідае адчуванне, што глядзіш нейкі трэцегатункавы баявік на НТВ.

Тут глядач пераносіцца ў Мінск, дзе прэзідэнцкая ахова, сярод якой два браты, п’е піва ў пабе.

Тут з’яўляецца эфектная дзяўчына «малодшага» брата. Ён адразу пачынае раўнаваць яе да «старэйшага», якога запрашае згуляць у більярд і саступае. Пасля гэтага «малодшы» вылятае з паба, загадаўшы дзяўчыне не чапаць яго.



«Старэйшы» ж садзіць дзяўчыну на таксі і з’язджае разам з ёй. На наступны дзень, падчас скачкоў з верталёта, «старэйшы» расказвае ўсім, што ўчора ехаў дадому разам з жанчынай, а што было далей расказваць не трэба — усё і так зразумела. Усё! Канфлікт паміж братамі створаны! Большую частку фільма гаварыць паміж сабою яны не будуць.

І вось тут пачынаецца вінегрэт, у якім намацаць сюжэтную лінію проста немагчыма. Прынамсі мне за дзве гадзіны зрабіць гэта не ўдалося.

Тут табе і ЧС па хакеі, і макеты зуброў, і «Мінск-Арэна», і Нацыянальная бібліятэка, і кадры, у якіх цяжка не разгледзець адсылкі да падзеяў на Плошчы-2010 ды тэракта ў метро.

Самі ж героі робяць ніяк не патлумачаныя дзеянні — кагосьці шукаюць, забіваюць, бегаюць... Няма сумневаў, што Мінкульт проста даў заданне здымачнай групе пад пэўным градусам паказаць болышасць падзей і «дасягненняў» нашай найноўшай гісторыі, а кіношнікі не асабліва клапаціліся пра трапнасць і рэалізацыю.

А вось кадры, дзе натоўп штурмуе будынак, у якім сядзіць выбарчая (?) камісія. Чаму бунтуюць гэтыя людзі і чаго яны хочуць? Незразумела для чаго ў фільм уводзіцца і абстрактны «прэзідэнт», які па тэлефоне загадвае то пачаць аперацыю «Шчыт», то аперацыю «Цэнтрыфуга», падчас якой спецназ пачынае збіваць і затрымліваць людзей.

Пры гэтым ніякай сюжэтнай нагрузкі сцэны з пратэстамі не нясуць і паўстае пытанне: навошта гэта ўвогуле паказваецца?

Потым шакуюць буйныя планы з пульсуючымі вантробамі пацярпелых ад «тэракта». Калі б сярод маіх родных былі ахвяры выбуху ў мінскім метро, аналогія з якім навідавоку, я б успрыняў гэта як непрыкрыты здзек з памяці людзей. Хіба выпадковыя пасажыры тады загінулі праз разборкі «авелітаў» і «каінітаў»? І калі аўтары хацелі паказаць беларускі боль, то ўдалося так кепска, што лепш бы яны гэтага не рабілі.

Таксама ў фільме прысутнічаюць прагматысты і БелАЗы. Прадстаўленне апошніх нічым не адрозніваецца ад рэкламы, калі амерыканская журналістка штучна робіць «ваў», убачыўшы беларускую машыну. Пасля БелАЗ пачынае душыць людзей...

Тым часам «старэйшы» брат, па сумяшчальтве начальнік аховы прэзідэнта, пагаджаецца дапамагчы амерыканцы шукаць «каініта» ў Беларусі.

Увогуле, фільм цалкам кампраметуе службу аховы прэзідэнта: паводле «Мы, браты», гэтых спецназаўцаў можна лёгка «вырубаць» кулакамі, спакусіць на сэкс, яны вераць у розную лухту пра «авелітаў», садзяцца за стырно п’янымі, а мроя маёра-камундуючага — гэта на «Бэнтлі» катацца па Малібу ў ЗША разам з жанчынамі. Смех, дый годзе.

З улікам таго, што «Мы, браты» ўяўляе сабою ланцужок нічым не звязаных сумбурных кадраў і прымітыўных дыялогаў узроўню «Оў, я так баюся ночыць адна, паехалі да цябе?», ён прымушае задушваць у сабе пазяханні ўжо праз паўгадзіны прагляду. А каб не дарагія і добраадзнятыя спецэфекты, то і праз 20.

Канчаецца ж фільм расповедам «злога» амерыканца пра прагу да таннай нафты і кантролю над людзьмі.

Пасля фінальных цітраў застаецца пытанне: а што я толькі што паглядзеў? І навошта?

**Арцём Гарбацэвіч**




**Рэжысёр Андрэй Курэйчык: Гэта жах**

Гэта называецца «нацыянальны кінапраект»? У мяне кожная сцэна выклікала пытанне, ці ёсць тут складнікі мастацтва. Такое ўражанне, што Міністэрства культуры за грошы падаткаплатнікаў фінансуе замежных порна-зорак. Састарэлая, але юрлівая Наташа Алам з адтапыранай дупай — вось твар «нацыянальнага кінапраекта». Што мне паказалі? Я нічога не зразумеў. Бачна толькі, што здымаў каскадзёр — людзі ўвесь час падаюць, гараць і паміраюць. Ну што тут сказаць, каскадзёр зняў, як умеў, гэта смешна. Не смешна толькі тое, што на гэта выдаткавана некалькі мільёнаў бюджэтных даляраў. І не смешна таксама тое, што здымкі праходзілі на месцах рэальных трагедый — на «Кастрычніцкай» і на Плошчы. Гэта жах», — падсумаваў агульныя ўражанні ад гэтага твора Курэйчык.

**«Что-то не так!»**

Гэтая фраза пайшла ў народ пасля здымак сцэны мітынгу на Плошчы для фільма. Перад пачаткам здымак памочнік рэжысёра павучаў масоўку: нельга ні ў якім разе крычаць «Жыве Беларусь!». Але які ж мітынг пратэсту без лозунгаў? Масоўцы дазволілі крычаць «Мы против!» і «Что-то не так!» Студэнта з масоўкі, які крыкнуў-такі «Жыве Беларусь!» затрымала міліцыя, але неўзабаве адпусціла.

**Сяргей Ждановіч**

Прадзюсар фільма. Генеральны прадзюсар кінакампаніі «Нонстоп Медыя», кампазітар. Нарадзіўся ў 1974 годзе ў Расіі, у 1978 сям’я пераехала ў Беларусь, у Капыль. Вучыўся ў Маладзечне. Працаваў як кампазітар з Інай Афанасьевай. Напісаў музыку да фільмаў «Ідэальная жонка», «Сёмін», «Я дачакаюся» і іншых. У 2012 годзе быў супрадзюсарам кароткаметражнага фільма «Туфлікі», які заваяваў шмат міжнародных узнагарод. Аўтар і стваральнік серыі праграм тэлевізійнага праекта «Гукі школ» на тэлеканале АНТ.

**Наташа Алам**

Выканаўца галоўнай ролі ў фільме. Амерыканская актрыса, што нарадзілася ў Ташкенце, а пазней узяла шлюб з унукам іранскага шаха. Вядомая як зорка часопісаў «Плэйбой» і «Максім», а таксама здымкамі ў амерыканскіх серыялах.

**Уільям Дэ Віталь**

Рэжысёр фільма. Насамрэч гэта ўкраінскі каскадзёр Віталь Васількоў. Ён нарадзіўся ў 1959 у Львове. Працаваў у львоўскім Тэатры юнага гледача, зняўся як каскадзёр у больш чым 300 фільмах (у тым ліку «Д’Артаньян і тры мушкецёры»). У 1991 эміграваў у Ізраіль, у 1998 — у Канаду. Працуе на кінастудыях Канады і Галівуда. Там і змяніў прозвішча.

# У Мінску ідзе першы беларускамоўны спектакль са стрыптызам




«Нямое каханне», Рэспубліканскі тэатр Беларускай драматургіі.

«Нямое каханне» пачынаецца з танца мужчынскай стрыптыз-групы *Royal Diamonds*. А кульмінацыя пастаноўкі — жаночы танец на пілоне. Сюжэт мае мала значэння. Затое на сцэне камернага тэатра, што знаходзіцца на Старажоўцы, сабраныя «найлепшыя творчыя сілы» мінскіх вар'етэ і эратычных шоу. Яны рассоўваюць ногі (у трусах) проста перад гледачамі ў першым шэрагу і брава зрываюць з сябе штаны лёгкім рухам рукі.

Тэатр дэкларуе ўсё гэта як «аўтарскі праект Ігара Сігава». Сігаў і сам выходзіць на сцэну з шансонам.

Невялічкі сюрпрыз — станоўчым героем, здольным на рашучыя дзеянні, у гэтым варварскім доме аказваецца супрацоўнік органаў. (Тыя, хто наракае на аднавымернасць беларускага культурнага поля, могуць здавацца.)

Не ўсё ў пастаноўцы лагічна.

Такі спектакль добра прымалі б у малых гарадах Беларусі, там гэта было б адкрыццём — беларускамоўнае шоу са стрыптызам і галоўным героем-кагэбістам. Але як вывезці туды спектакль, у якім занятыя дзясяткі запрошаных зорак? Іх і ў Мінску, відаць, сабраць праблематычна, а дзе яны табе паедуць у Маларыту? Кожны з іх з'яўляецца на сцэне на 5—10 хвілін, але ж і ён — частка спектакля.

Па-другое, такі спектакль павінен каштаваць страшна дорага. Няўжо гэтыя дыяменты дзявочнікаў перад 8 Сакавіка і зоркі банкаўскіх карпаратываў выходзяць на сцэну ўсе разам з чыстай любові да мастацтва? Не верыцца. Тады чаму такая ўбогая, тандэтная сцэнаграфія? Калі ўжо цыганы (ражаныя пад цыганоў), то прывядзіце на сцэну і каня. Калі ўжо вар'етэ, дык наліце вы гледачам паўсалодкае ігрыстае вырабу Мінскага завода шампанскіх він, ім запомнілася б. Вам гэта будзе каштаваць пару працэнтаў ад кошту ганарару работніц пілона. Ці, прынамсі, разбіце на сцэне сапраўдныя бакалы, а не пластыкавыя муляжы.

Жартую, вядома. Але адчуванне несувымернасці задзейнічаных сіл і антуражу застаецца.

Як і лішнясці акцёраў на сцэне. На храна яны тут, калі ім не даюць іграць? Пасадзіце аднаго, хай ён зачытвае канву. Усё роўна роля акцёраў зводзіцца да прайсці туды-сюды і сказаць пару сказаў для сувязі між музычна-танцавальнымі нумарамі. Калі б акцёрам быў я, я б ніколі пасля гэтага не пагадзіўся іграць у спектаклях Сігава. Гэта страчаны час у жыцці, ні розуму, ні сэрцу акцёра.

Калі спектаклеў Рэмба — супрацоўнік органаў, то чаму ён апрануты як лох раённы, у вастраносыя туфлі і поліэстэрны блiскучы касцюмчык? Дапусцім, такімі бачыць сілавікоў рэжысёр. Але чаму ў яго штаны зашмуляныя і недапрасаваныя? Сілавікам не палажана хадзіць неахайнымі. Чаму ён агрэсіўны, нарэшце, у вольны ад работы час? Гэта хіба не характэрна.

Дарэчы, у Марата Вайцяховіча, выканаўцы гэтай ролі, адчуваецца душа, ён здолеў бы і сыграць гэтага героя, калі б сцэнар і рэжысёр прадугледжвалі нейкую ігру, а не проста хаджэнне па сцэне.

Сваім сюжэтам, музыкай і танцамі спектакль меў бы страшны поспех у падлеткаў старшага школьнага веку і асабліва навучэнцаў прафесійна-тэхнічных каледжаў. Спачатку яны ржалі б, але пасля пранікаліся б. Але бяда-бяда — у афішы ён пазначаны як «для дарослых ад 16 гадоў», а ў праграмцы нават — «клубны праект 18+». Між тым досыць было выразаць 15 хвілін стрыптызу і каля яго, і спектакль адразу трапляў бы ў «мэтавую аўдыторыю», і нават кагосьці з падлеткаў падштурхнуў бы да творчасці, пісання вершаў, складання музыкі і нават больш — да іншага, глыбейшага стаўлення да выбару свайго жыццёвага шляху і спадарожнікаў на ім.

А так выйшаў спектакль для ўсіх і ні для каго. І для мужчын, і для жанчын, і для дарослых, і клубны — а зала на паказе, на якім прысутнічаў ваш пакорны слуга, была запоўненая толькі напалову.

Стрыптыз не гарантуе поспеху.

**Мікола Бугай**

# Які чалавек патрэбен суверэннай Рэспубліцы Беларусь?

Піша **Аляксандр Фядута**.



Калісьці нехта Замяталін сказаў пра мяне, што я — правінцыйны школьны настаўнік. Я ганаруся гэтым званнем і не хаваю гэтай старонкі сваёй біяграфіі — як, зрэшты, і любой іншай старонкі. Пяць гадоў працы ў сярэдняй школе сталі школай для мяне самога. Добрай школай. І бы ў я, як сцвярджаюць мае выпускнікі, не самым дрэнным настаўнікам.

У гэтай якасці мне даводзілася ўдзельнічаць у абмеркаванні праектаў школьных праграм па літаратуры, якія праходзілі па ініцыятыве Міністэрства адукацыі БССР, а потым ужо Рэспубліцы Беларусь. Магу сказаць, што палеміка ішла не на жартачкі: галоўны замоўца праграмы — дзяржава — не даваў адказу на пытанне, навошта ў школе выкладаць літаратуру. Адказ на яго азначаў бы адказ і на іншыя пытанні: колькі гадзін і ў якіх класах неабходныя, якіх пісьменнікаў і якія творы вывучаць і ў якім аб'ёме. А дзяржава адказу на яго не давала. І не дае.

Не дае, бо спачатку трэба вызначыцца ў прынцыпе, які чалавек патрэбен суверэннай Рэспубліцы Беларусь.

А сапраўды — які?

Сёння пануе канцэпцыя дэлегавання права распараджацца сваім матэрыяльным дабрабытам, свабодай і нават жыццём — дзяржаве. Так бы мовіць, «радзіма чуе, радзіма ведае ...». Дзяржаве сёння — на яе думку — патрэбныя паслухмяныя работнікі, якія не прэтэндуюць на свабоду выбару.

Адсюль пастаяннае зніжэнне ролі гуманітарных ведаў у адукацыйным працэсе. Адсюль прыніжэнне гуманітарных ведаў ва ўніверсітэцкай і акадэмічнай навуцы.

Скарачэнне гадзін, зліццё кафедраў, факультэтаў і акадэмічных інстытутаў — гэта ўсё адтуль. Любы аўтарытарны і ксенафобскі рэжым закрывае дзверы літаратуры, гісторыі, філасофіі, кажучы: гэта — лішняе.

Правільна: калі патрэбы чалавека зводзяцца да чаркі і скваркі, Кант і Стэндаль яму не патрэбныя.

Руская літаратура ў якасці самастойнага прадмета засталася беларускай школе ў спадчыну ад школы савецкай. Тады гэта здавалася апраўданым і разумным. Не было ні падручнікаў, ні праграм, ні перакладаў на беларускую мову абавязковага для культурнага чалавека комплексу тэкстаў сусветнай класікі. Але прайшло дваццаць з лішнім гадоў. Тады словамі аднаго з дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання пра тое, што «пасадзіў студэнтаў — яны перакладуць!», ужо можна не смяяцца: вырасла вялікая школа перакладчыкаў з асноўных сусветных моў на беларускую мову.

Таму тэарэтычна сусветную літаратуру можна выкладаць не толькі на рускай, але і на беларускай мове.

Пытанне абмежавання гуманітарнай падрыхтоўкі вялікімі тэкстамі рускай літаратуры немагчыма звесці да барацьбы з канцэпцыяй агрэсіўнага «рускага свету»: не ўкладваюцца ў гэтую канцэпцыю ні «Яўген Анегін», ні «Герой нашага часу», ні «Вайна і мір», ні «Дама з сабачкам».

Але ў савецкай школе панаваў — і застаўся ў спадчыну беларускай школе — метад ідэйна-тэматычнага аналізу літаратурнага тэксту. «Цёмнае царства», «абломаўшчына», «лішнія людзі», «свінцовыя брыдоты жыцця» і «горад жоўтага д'ябла» — штампы, якія былі зручныя для выхавання змагароў з сусветным імперыялізмам. Была адна праграма, адны тэксты, адна гісторыя літаратуры, будаваная ў адпаведнасці з артыкуламі Леніна «Памяці Герцэна», «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура» і «Леў Талстой як люстэрка рускай рэвалюцыі».

Альтэрнатыва не абмяркоўвалася. І з сусветнай літаратуры адбіралася тое, што ўсе гэтыя штампы і догмы магло ілюстраваць.

Адсюль «Мешчанін у шляхецтве» і «Габсек» (што выкрываў буржуазію), «Паломніцтва Чайлд-Гарольда» (пратэст супраць сучаснасці) і «Ваніна Ваніні» (вобраз рэвалюцыянера). У сярэдніх класах — «Авадзень» (ну, з гэтым усё зразумела).

І толькі ў пятым класе на хвіліну з'яўляліся фрагменты з «Адысеі» і «Дон-Кіхота». І ўсё! На Шэкспіры і Гётэ канцэпцыя давала збой, але іх таксама не маглі абысці, таму іх выкладалі ў канцы навучальнага года, калі і настаўнікам, і вучням было ўжо не да такіх складаных тэкстаў.

Так было ў той час, калі вучылі мяне і вучыўся я.

Цяпер сітуацыя, як я разумею, яшчэ горшая, бо колькасць гадзін на выкладанне літаратуры катастрафічна зменшылася.

Пара перагледзець канцэпцыю.

Калі мы сыходзім ад ленінскай (і сталінскай) канцэпцыі, пара адказаць на пытанне: якая мэта выкладання літаратуры ў сярэдняй школе?

Магу прапанаваць свой адказ.

У пачатковай школе мы павінны навучыць дзіця чытаць і разумець прачытанае на ўзроўні фабулы (гісторыі, расказанай у тэксце) і ладу.

У сярэднім звяне мы павінны выпрацаваць у падлетка звычку чытаць і атрымліваць ад прачытанага задавальненне.

У старэйшых класах і каледжах мы павінны навучыць школьніка аналізаваць прачытанае (даць інструментар аналізу літаратурнага тэксту) і рабіць з яго самастойныя высновы.

Неабходнасць першай стадыі літаратурнай адукацыі зразумелая нават Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь,што пастаянна змагаецца за эканомію бюджэтных грошай. Без гэтай стадыі чалавек не зможа наогул атрымліваць інфармацыю і выразна выкладаць свае думкі. І тут не важна, якія тэксты чытае дзіця. Зразумела, што будзе чытаць вершы, лёгкія апавяданні і казкі. І тут знойдуць сабе месца і Змітрок Бядуля з Міхасём Лыньковым, і Міхаіл Пришвін з Віталём Біянкі, і Ханс Крысціян Андэрсан з Шарлем Перо — гэтыя, праўда, у адаптаваным варыянце.

Другая стадыя — выхаванне чалавека, які ўмее займацца самавыхаваннем і самаадукацыяй. Падлетак павінен зразумець, што чытаць — гэта ў кайф, гэта ў задавальненне. І тут героем урока павінен стаць літаратурны сюжэт.

Не трэба прымушаць няшчаснае дзіця зубрыць «Скажи-ка, дядя, ведь не даром» не па прычыне нібыта імперскіх поглядаў Лермантава. А проста таму, што яму гэта не цікава. Ён у гэтым звяне школы павінен прайсці шлях ад казкі праз дэтэктыў і фантастыку да сюжэтнай псіхалагічнай прозы. І хай нават казка будзе напісана немцам Гофманам, дэтэктыў — англічанінам Чэстэртанам, фантастыка — французам Экзюперы, а псіхалагічную прозу прадставіць сентыментальная аповесць Траяпольскага «Белы Бім Чорнае вуха» — абы не «Муму», якая ўжо год восемдзесят ніякіх эмоцый, акрамя нянавісці, нават у мяне не абуджае.

А вось у старэйшых класах юнакоў і дзяўчат трэба вучыць аналізу. Менавіта тут патрэбныя высокія ўзоры сусветнай літаратуры.

Ім трэба растлумачыць, як створаны трагедыя і камедыя, што такое раман, чаму існуюць «вечныя вобразы». Вось тут кожны школьны настаўнік павінен атрымаць магчымасць выбраць з некатарага ліку сусветных аўтараў. Паверце, «Вайну і мір» і «Злачынства і пакаранне» ўсё роўна добры настаўнік у праграме пакіне — побач з Шэкспірам і Шылерам, Стэндалем і Сянкевічам. Гэтыя тэксты даюць цудоўны матэрыял для сур'ёзных разважанняў дзецям, што сталеюць. Галоўнае — не прымушаць іх завучваць тыя штампы, якія зафіксаваныя ў старых савецкіх падручніках.

Цяпер праблема яшчэ і ў іншым. У колькасці гадзін на гуманітарную падрыхтоўку. Іх значна менш. Адсюль памяншаецца і аб'ём выкладання літаратуры. Гэта вельмі дрэнна. Таму што дзяржаве ў яе цяперашнім ідэалагічным выглядзе чытачы «Злачынства і пакарання» і «Хаджы-Мурата» гэтак жа небяспечныя, як чытачы «Дзядоў» і «Каласоў пад сярпом тваім». І чытачы «Чырвонага і чорнага», «451 градуса па Фарэнгейце» і «Дон-Кіхота» ўспрымаюцца ёю як ворагі, з якімі трэба змагацца. У гэтым — праблема.

Але ж толькі чытачы разумеюць, што яны абараняюць не тэрыторыю, у цэнтры якой стаіць халадзільнік з прадуктамі, а — Радзіму і любімых людзей. Толькі яны здольныя вытрываць голад — дзеля будучыні.

**Аляксандр Фядута, кандыдат філалагічных навук, пушкініст**

# Родавы пярсцёнак

Пра лёсы нашчадкаў Антона і Івана піша гісторык **Анатоль Сідарэвіч**.

Друкуючы летась у «Нашай Ніве» нарыс пра сям'ю Луцкевічаў, сваё апавяданне я скончыў тым, як пасля этапаў у Мінск (ужо не Менск) вярнулася Эмілія Шабуня, малодшая дачка пана Яна Баляслава, сястра Івана і Антона. У Мінску, пісаў я, заставаліся старэйшая дачка пані Эміліі, Яніна, і сын Эдвард. Гэты сюжэт — Эмілія, Яніна і Эдвард — я абяцаў выкласці ў наступнай публікацыі. Але перада мною паўстала этычная праблема: як растлумачыць чытачам той факт, што ў Яніны Шабуні было, акрамя дзявочага, яшчэ тры прозвішчы?

Дзеля якіх прычын яна тройчы выходзіла замуж? Я вырашыў атрымаць інфармацыю ад Янінінай дачкі, спн. Юліі Андрусышынай. Папрасіў журналістку Валянціну Трыгубовіч, якая жыве ў Штатах і кантактуе з Андрусышынымі, перадаць мае пытанні, але атрымаў адлуп. Спн. Валянціна напісала, што нізавошта не скажа мне да таго часу, пакуль у свет не выйдзе кніга ўспамінаў спн. Юліі Андрусышынай. І вось у ліпені я з ласкі Данчыка, Багдана Андрусышына, атрымаў кнігу ягонае маці «Забыццю не адданае», якая выйшла ў выдавецтве «Лімарыус».

У гэтай кнізе я знайшоў адказы на пытанні, якія спрабаваў задаць летась спн. Юлі. Большай дачцэ Эміліі Шабуні, Яніне, якую ў 1911 г. у Ракуцёўшчыне на руках насіў Максім Багдановіч, «пашанцавала» на слабых мужчын. Першы муж, Вадзім Каралёў, бацька спн. Юліі Андрусышынай, не ўстаяў перад чарамі адпае заезджае спакусніцы. «Паход налева» спн. Яніна яму не даравала. Балазе на развод ужо не патрабаваўся дазвол духоўных уладаў. Другі муж Яніны, Лявон Федаровіч, таксама не мог устаяць, але перад чарамі шкляногa бога (эўфемізм, вычытаны ў Вацлава Ластоўскага). Ад другога мужа ў спн. Яніны таксама нарадзілася дачка — Элеанора, у замустве Норык. Муж спн. Элеаноры, Леанард Норык, — чалавек наваградскі (памёр у 2002 г.)

Трэцяе прозвішча спн. Яніны было Каханоўская. Гэтае прозвішча, апынуўшыся на Захадзе, узяў сабе Аўген Калубовіч (1912—1987) — гісторык, мемуарыст, палітычны дзеяч. Гэтым прозвішчам ён падпісваўся са спн. Янінай і яе дзецьмі — хоць спн. Яніна і Калубовіч шлюбу не афармлялі.

У кнізе «Забыццю не адданае» мы можам бачыць і фота маладога Эдварда (Дзюніка) Шабуні і ягонай жонкі Ані (у дзявоцтве Абрамовіч). У іх нарадзілася дачка, названая ў гонар бабулі Эміляй. Калі ў 1944-м тысячы беларусаў падаліся на Захад, Ганна Шабуня вырашыла застацца разам з дачкою ў Менску каля сваіх бацькоў. Так распалася яшчэ адна сям'я. Эмілія Шабуня-малодшая выйшла замуж за Івана Карповіча. У яе нарадзіліся дачка Ірына і сын, якога назвалі Эдуардам. Пра тое, як склалася жыццё іх дзеда Эдварда Шабуні ў Штатах, можна ўведаць з кнігі ўспамінаў ягонай пляменніцы Юлі Андрусышынай.

### Што лепш?

Мяне доўга турбавала, ці засталіся здымкі малодшага з сыноў пана Яна Баляслава, доктара Сцяпана (Стэфана) Луцкевіча (1889—1947), а то здымак маладзенькага вайсковага лекара, апублікаваны 18 верасня 1914 г. у «Нашай Ніве», нельга назваць якасным. У кнізе «Забыццю не адданае» мы бачым не адзін якасны здымак ужо сталага чалавека. І здымак ягонай жонкі Надзеі з Паўлюковых (1896—1953). Доктар Луцкевіч пазнаёміўся з ёю, сястрою міласэрнасці, у Першую сусветную вайну.

Стэфан палітыкай не займаўся. У маладыя гады ён паводзіў сябе як шляхціц старой даты: не цураўся выпіўкі і быў забіякам, нават (на пачатку XX стагоддзя!) дуэлянтам. Пасварыўшыся з дружбаком (ці не за паненку?), С. Луцкевіч прастрэліў яму нагу.

У пані Зоф'і Луцкевічавай, мусіць, была не адна бяссонная ноч з-за сыноў. Калі яна наракала на старэйшых, Яна ды Антона, за тое, што пайшлі ў рэвалюцыю ды рызыкуюць здароўем і жыццём, тыя адказалі: «А што, лепш было б, каб мы жылі так, як Стэфан?» Маці заплакала.

Доктар Стэфан Луцкевіч і яго пляменніца, доктар Марыя Шабуня, былі арыштаваныя і апынуліся на поўначы Расіі, у сучаснай Мурманскай вобласці. У адной расійскай публікацыі я вычытаў, што арышты медыкаў і іх высылка на кароткія тэрміны былі своеасаблівай мабілізацыяй. Бальшавікі асвойвалі радовішчы карысных выкапняў, будавалі (пераважна сіламі зэкаў) заводы і гарады, і ім патрабаваліся медыкі. А як ніхто добраахвотна не жадаў мяняць Менск ці Віцебск на Мядзведжую Гару і Манчагорск, бальшавікам давялося арыштаваць спецыялістаў. Балазе (у нашым выпадку) яны былі «сацыяльна чужымі», сваякамі вядомага «нацыянал-фашыста» Антона Луцкевіча. Вяртацца пасля скранчэння тэрміну ў Мінск ім было забаронена.

Доктар Стэфан Луцкевіч, як і яго старэйшы брат Ян Герман, памёр ад сухотаў. Дзяцей ён не пакінуў.

### Радавод

Радавод у нас пакуль што вядзецца па мужчынскай лініі. Іншы раз пачатак роду губляецца ў тумане мінуўшчыны. Таму мы можам толькі ўмоўна сцвярджаць, што доктар Стэфан і яго браты належалі да сёмага пакалення шляхецкага роду Луцкевічаў.

У ягонай унучатай пляменніцы Алесі ў Вільні захоўваецца выпіска з радаводу. На жаль, не пазначаныя даты жыцця кожнага з Луцкевічаў. Таму можна пісаць у біблейскім духу. Міхал Луцкевіч нарадзіў Францішка; Францішак нарадзіў Юзафа; Юзаф нарадзіў Марціна і братоў яго Міхала, Язафата, Ігната і Андрэя; Марцін нарадзіў Яхіма Юзафа; Яхім Юзаф нарадзіў Яна Баляслава (і брата яго Стэфана); Ян Баляслаў нарадзіў Яна Германа і братоў яго Антона і Стэфана.

З нейкага часу ў сям'і Луцкевічаў ад бацькі да старэйшага сына пераходзіў пярсцёнак з выявай герба «Навіна». Не ведаю, каторы з сыноў Яхіма Юзафа (Ян Баляслаў ці Стэфан, які загінуў у 1863-м) быў старэйшы. Ведаю, што родавы парсцёнак перайшоў ад Яна Баляслава да Яна Германа. Аднаго разу гэты пярсцёнак прапаў, але не назаўсёды. Прыехаўшы ў нейкай патрэбе ў Варшаву, калекцыянер з натуры, Ян Герман не мог абмінуць антыкварныя крамы. Якое ж было яго здзіўленне, калі ў адной з іх ён убачыў пярсцёнак з гербам «Навіна»!..

Іван (Ян Герман) Луцкевіч памёр у 1919 г. у Закапанэ. Да апошняй хвіліны пры ім знаходзілася яго нявеста Юліяна Мэнке. У гэты ж гарадок, каб выканаць усе фармальнасці, з Парыжа, дзе ён быў на мірнай канферэнцыі, прыехаў Антон Луцкевіч. Можна думаць, што тады, у жніўні 1919-га, родавы пярсцёнак Луцкевічаў перайшоў да яго.



Антон і Зоф'я Луцкевічы з сынамі Юркам і Лявонам.



Юрка і Лявон Луцкевічы ў Вільні на Каляды 1939-га.

### Антонавы сыны

Антон Луцкевіч у Парыжы пазнаёміўся з Зоф'яй Абрамовіч, выпускніцай медыцынскага факультэта ўніверсітэта ў Манпэлье. Зоф'я — гэта хрысціянізаваны варыянт імя Сэрка. Зрэшты, пазнаёміцца Антон і Сэрка маглі і ў Вільні, а ў Парыжы іх знаёмства аднавілася і перарасло... Антон вырашыў, што яму пара ажаніцца. Яго намер прывесці ў шляхетную сям'ю Луцкевічаў габрэйку не мог не выклікаць пэўнага супраціву. Супраціў родных адолець удалося, але на перашкодзе паўстаў Касцёл, які ніякім родам не мог удзяліць таемства шлюбу каталіку з іудзейкай. І Антон перайшоў у кальвінізм ды стаў законным мужам Зоф'і Абрамовіч.

Паводле кальвініцкага абраду былі хрышчаныя абодва сыны Антона і Зоф'і: Юрка (1920—1992) і Лявон (1922—1997). Калі ў 1929 г. з гэтага свету пайшла іх маці, Антон другі раз не жаніўся. Пазбаўлены працы ў гімназіі, абмежаваны ў сродках, ён жыў з сынамі ў аднапакаёвай кватэры на вуліцы Піўной. Як і яго бацькі, Антон дбаў пра адукацыю дзяцей. Яго сыны скончылі Віленскую беларускую гімназію, а потым вучыліся ў электратэхнічным ліцэі школы імя Юзафа Пілсудскага. «Кавалак хлеба» ім быў гарантаваны.

У 1939 г. Юрку Луцкевіча залічылі ў Варшаўскі політэхнічны інстытут, але вучыцца яму не давялося. Мусіў ісці ў Войска Польскае. Наваранца Луцкевіча камандаванне накіравала ў афіцэрскую школу.

Факт вайсковай службы большага сына паўплываў на паводзіны А. Луцкевіча ў 1939-м. Калі Чырвоная Армія набліжалася да Вільні, ён не мог, як іншыя беларусы, перабрацца ў пакуль яшчэ незалежную ковенскую Літву. Не было сумневаў, што польская армія будзе разбітая і Юрка, калі не трапіць у палон, вернецца ў Вільню... Ведама, А. Луцкевічу цяжка было б расстацца і з Беларускім музеем імя Івана Луцкевіча, заснавальнікам і ахавальнікам якога ён быў. Трэба ведаць і яго стаўленне да віленскага пытання. У ковенскай Літве выдатна ведалі, што А. Луцкевіч лічыць Вільню беларускаю Меккаю.

# Луцкевічаў

30 верасня НКВД арыштаваў Антона Луцкевіча, а 10 кастрычніка Масква перадала Вільню ў склад Літвы. Наўрад ці Луцкевіч мог ведаць, што яго большы сын трапіў у нямецкі палон. У кнізе «Забыццю не аддадае» можна ўбачыць здымак, зроблены 26 снежня 1939 г. (другі дзень Калядаў): мы бачым Ю. Луцкевіча на віленскай вуліцы разам з цывільным братам Лявонам. На жаль, пакуль што няма адказу на пытанне: ён уцёк з палону ці немцы адпусцілі дадому?

Лідарам беларускай калоніі ў ковенскай Літве быў колішні дзяржаўны сакратар БНР Клаўдзій Дуж-Душэўскі, прыяцель і дабрадзей Антона. Ён і ўзяў пад апеку ягоных сыноў.

Калі Літву ў ліпені 1940 г. зрабілі савецкай рэспублікай, браты Луцкевічы жылі на паўлегальным становішчы.

## Вайна. Няволя

Маючы за спінай гімназію і ліцэй, Ю. Луцкевіч мог працаваць настаўнікам.

Увосень 1941-га, калі галоўны школьны інспектар генеральнай акругі Беларусь святар Вінцэнт Гадлеўскі наладжваў беларускае школьніцтва, браты Луцкевічы сталі педагогамі ў недалёкіх ад «іхняй» Ракуцёўшчыны Радашковічах. Юрка Луцкевіч стаў дырэктарам сямігадовай школы і настаўнікам матэматыкі, а Лявон выкладаў беларускую мову і літаратуру. На гэтай працы яны заставаліся да снежня 1942-га, а потым пераехалі ў Баранавічы, дзе была прагімназія. Былы вучань гэтай прагімназіі доктар Янка Запруднік згадвае братоў Луцкевічаў як сваіх ментараў.

Калі нацысты нарэшце дазволілі беларусам ствараць узброеныя сілы, браты Луцкевічы — абодва сябры падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі — пайшлі ў Беларускую краёвую абарону, сталі яе афіцэрамі. Пазней абодва апынуліся ў складзе беларускага дэсантнага батальёна «Дальвіц». Разам з Усеваладам Родзькам яны ўвесну 1945-га перабраліся ў Польшчу дзеля арганізацыі антыбальшавіцкага падполля і партызанкі і жылі ў Варшаве як Кшывіцкія (тут дарэчы згадаць, што Лявон Крывіцкі — літаратурны псеўданім Л. Луцкевіча). Пад канец 1945-га братоў арыштавалі і па этапе адправілі на ўсход.

У час вайны СССР страціў дзясяткі мільёнаў людзей, людзей пераважна працаздольных. Рабочых рук не хапала і на «волі», і ў лагерах. І галоўны кат вырашыў на пэўны час скасаваць пакаранне смерцю. Братоў Луцкевічаў, праўдападобна, судзілі пасля ўказа ад 26 мая 1947 г. Прысуд ім вынеслі стандартны — 25 гадоў. Так браты Луцкевічы апынуліся на Калыме.

Адукацыя дапамагала выжыць у суровых умовах савецкай «зоны». Так, маючы дыпломы электратэхнікаў, браты ў зняволенні працавалі па спецыяльнасці, а Ю. Луцкевіч пабыў яшчэ і фельчарам — прыдалося веданне лаціны, якую старанна вывучыў у гімназіі.

## Жонкі Антонавых сыноў. Унукі

Далей я больш увагі надам Юрку Луцкевічу. Гэта тлумачыцца тым, што ў ягонага брата Лявона, жанатага з Галінай Войцік (1927—2007; дачка беларускага дзеяча і літаратара Антона Войціка і Зоські Верас), не было дзяцей.

А значна раней на Калыме пачалася рамантычная гісторыя.

Можна гадаць, што пацягнула маскоўскую камсамолку Ніну Злыгосцеву і ейнага брата на Калыму — рамантыка ці паўночныя надбаўкі. Па камсамольскай пуцёўцы яны апынуліся ў Магаданскай вобласці. І так собіла, што з маладзейшай на 15 гадоў Нінай Злыгосцевай пазнаёміўся вольнапасяленец Юрка Луцкевіч. (З лагера ён выйшаў 14 жніўня 1956 г., а потым здабываў золата, быў «старацелем», зарабляў грошы: сын прэм'ер-міністра БНР, беларускі афіцэр, вярнуўшыся ў Вільню, павінен выглядаць прэзентабельна.)

Пазнаёміліся і пазнаёмілася. І раз'ехаліся.

У нас няма дакладнай даты вяртання Юркі Луцкевіча ў Вільню. Прыехаўшы, ён уладкаваўся на працу ў сістэме літоўскага Міністэрства будаўніцтва, у электрамантажным трэсце. Працаваў інжынерам, хоць афіцыйна лічыўся электратэхнікам 6-га разраду. Гэта была самая высокая пасада, якую мог заняць Луцкевіч: судзімасць з яго знялі, але не рэабілітавалі.

Тут я мушу ўдакладніць: калі Ю. Луцкевіч пазнаёміўся з Н. Злыгосцевай, яна ўжо была замужам, а летам 1957 года нарадзіла сына Сяргея. А потым развялася са сваім першым.

І вось паміж Вільняю і Масквою завязалася перапіска. Вынікам стала тое, што Ніна Злыгосцева пераехала (ці не ў 1967 г.?) у Вільню і стала жонкаю Юркі Луцкевіча. Сяргея Луцкевіч усынавіў, даў яму сваё прозвішча. У часы ВКЛ у шляхецкім асяроддзі гэта называлася адопцыяй. А неўзабаве, 5 лютага 1969 г., у Ю. Луцкевіча і яго жонкі нарадзілася дачка Алеся. І ўжо калі Ніне Луцкевіч было пад сорак, 8 сакавіка 1974 г. яна нарадзіла сына, якому далі імя Іван.

## Антонавы праўнукі

Ю. Луцкевіч дбаў пра адукацыю сваёй дачкі. Калі Алеся скончыла школу, бацька разам з ёю паехаў у Шаўлі, у тамтэйшы педагагічны інстытут, дзе рыхтавалі дэфектолагаў. Шавельскі інстытут бацьку не спадабаўся, і ён паехаў з дачкою ў сталіцу БССР. У Мінску Алеся Юр'еўна Луцкевіч стала дыпламаваным дэфектолагам. Яна і сёння практыкуе сваю спецыяльнасць.

З Беларусі, з Краснапольскага раёна, паходзіць і яе муж, мастак Алесь Поклад. У 1998 г. у Алесі Луцкевіч і Алеся Поклада нарадзіўся сын Ян. Хлопец цяпер на раздарожжы: куды ісці вучыцца пасля гімназіі?

Антонаў унук Іван у год смерці маці быў падлеткам. Пасля школы ён паступіў на факультэт беларускай філалогіі Віленскага педуніверсітэта. Тут было не без уплыву бацькі і дзядзькі. Бацька вадзіў яго, падлетка, на пасяджэнні віленскага Таварыства беларускай культуры, у якім рэй вёў дзядзька, а таксама вазіў у лясную хатку, дзе жыла дзядзькава цешча Зоська Верас, і ў Ракуцёўшчыну... Пэўную ролю ў лёсе Івана адыграў і сын яго траюраднай сястры Юлі Андрусышын, на 16 год старэйшы за свайго дзядзьку Данчык. І яго сябрук Леанід Барткевіч таксама. Праўда, Івану да сэрца больш прыпала іншая форма музычнага мастацтва — джаз.

Захапленне джазам прывяло Івана Луцкевіча... у Ізраіль. Пабыўшы там адзін раз, у 2008 г. Іван Луцкевіч падаўся ў Святую Зямлю другі раз. На гэты раз з празаічнай мэтай — падзарабіць. Працаваў шафёрам у ваколіцах Тэль-Авіва. І не проста шафёрам, а начным. Юрка Луцкевіч, нагадаю, знайшоў сваю Ніну на Калыме, а яго сын Іван сваю гомельку Вольгу — у Ізраілі. Там і ажаніўся. Там у іх у 2010 годзе нарадзіўся сын Міхаэль (Міхась). Натуем: Міхаэль Луцкевіч, праўнук прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча, мае права прэтэндаваць на крэсла прэзідэнта ці прэм'ер-міністра Ізраіля. На гэтыя пасады можа разлічваць і Юрка Луцкевіч, яшчэ адзін Антонаў праўнук, які нарадзіўся ў 2012 годзе.

У 2013 годзе Іван, Вольга, Міхась і Юрка Луцкевічы пераехалі ў Вільню. Малыя ўжо пабывалі ў Гомелі. Там жыве іх бабуля.

* * *

...І зноў радавод. Міхал Луцкевіч нарадзіў Францішка; Францішак Луцкевіч нарадзіў Юзафа; Юзаф Луцкевіч нарадзіў Марціна і братоў яго Міхала, Язафата, Ігната і Андрэя; Марцін Луцкевіч нарадзіў Яхіма Юзафа; Яхім Юзаф нарадзіў Яна Баляслава (і брата яго Стэфана); Ян Баляслаў нарадзіў Яна Германа і братоў яго Антона і Стэфана; Антон нарадзіў Юрыя і брата яго Лявона; Юры нарадзіў Івана; Іван нарадзіў Міхаэля (Міхала) і брата яго Юрыя. Каго народзяць Антонавы праўнукі — пакажа час. Род Луцкевічаў глядзіць у будучыню.

А родавы пярсцёнак з гербам «Навіна»? Ад Яна Баляслава ён перайшоў да Яна Германа. У Яна Германа ён быў прапаў, але знайшоўся. Ад Яна Германа пярсцёнак перайшоў да Антона. Антон (мабыць, у дзень арышту праз Лявона) перадаў яго Юрку. Арыштаваўшы Юрыя Антонавіча Луцкевіча, гэбісты арыштавалі і родавы пярсцёнак. Мо некалі хто з калекцыянераў натрапіць на яго...




Унук Антона Луцкевіча — Іван з жонкай Вольгай і сынамі Міхасём і Юркам.



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Украінскі канатаходзец Станіслаў Панюта прайшоў па тонкай стужцы на вышыні 60 метраў між паўночнай вежай комплексу «Тытан» і новым будынкам бізнэс-цэнтра «Вежа Еўропы» ў Мінску. А ўнізе ў гэты час праходзіў канцэрт, прысвечаны адкрыццю бізнэс-цэнтра. Пасля Станіслава па стужцы прайшлі беларускія хлопцы з каманды «Слэклайн Мінск».**



TUT.BY

**23 верасня на трасе М1 у раёне Дзяржынска прайшлі вайсковыя вучэнні — прызямляліся на дарозе і падымаліся ў паветра знішчальнікі «МіГ-29», штурмавікі «Су-25», ваенна-транспартны «Ан-26».**



**Падчас пракладкі цеплатрасы ў двары дома па мінскім праспекце Дзяржынскага будаўнікі дасталі з зямлі габрэйскую магільную пліту. «На ёй напісана «чалавек гарачы і шчыры Шыман», прозвішча неразборліва, — паведамляе перакладчык з іўрыта Павал Касцюкевіч. «Паводле габрэйскіх надмагілляў, у Беларусі жанчыны былі збольшага «сціплыя і добрыя», а мужчыны «гарачыя і шчырыя». Непадалёк знаходзіліся зруйнаваныя на пачатку 70-х габрэйскія могілкі.**



**Папа Францішак пачаў сваё турнэ па ЗША з Вашынгтона. Падчас свайго візіту Папа мае намер таксама наведаць Нью-Ёрк і Філадэльфію. На вайсковай базе Эндрус, куды прызямліўся самалёт пантыфіка, Францішка асабіста вітаў прэзідэнт Барак Абама — рэдкія для ЗША ўшанаванні, якія аказваюцца высокапастаўленым замежным гасцям. А ў Белы дом Папа, які прапагандуе сціпласць, прыехаў на звычайным «Фіяце».**



**Неверагодная прырода: вялікая блакітная чапля ў пошуках месца для лоўлі рыбы. Возера Рамэа, штат Мічыган, ЗША.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Мой тата кажа, што заўсёды больш прыемна даць, чым атрымаць.

— Ён у цябе, напэўна, святар?

— Не, баксёр.

* * *

— Ці не падкажаце, як даехаць да цэнтра?

— Лёгка! Ездзьце за любым пустым эвакуатарам!

* * *

Верасень — гэта калі ты носіш куртку ў руках увесь дзень, бо з раніцы было холадна.

* * *

— Тата, а чаму мы ямо бульбу, а нашы суседзі пастаянна смажаць шашлыкі?

— А гэта, сынок, таму, што яны гультаі. Яны не хочуць яе саджаць, даглядаць і збіраць каларадскага жука.

* * *

— Мама, я ўсё з'еў!

— Вось менавіта таму, сынку, мы і хочам, каб ты ўжо жыў асобна.

* * *

Калі бабуля кажа, што ты выдатна выглядаеш, значыць, тэрмінова трэба худзець.

* * *

Кажуць, што хутка будзе добра. Каму будзе добра — не кажуць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**В. Прыдруйск Віцебскай губ. Дрысенскага пав.** Паштовы аддзел у Прыдруйску заменены цяпер на паштова-тэлеграфны. Гэта справа даўно ляжала на сэрцы нашым жыцелём, бо выходзіла вялікая нявыгада ад няхвату тэлеграфа.

**«НН» № 40, 1910**

**14 верасня на вуліцы Леніна** ў цэнтры Віцебска адбыўся выбух. Два мінакі былі параненыя, 22 верасня — яшчэ адзін выбух, зноў у Віцебску, зноў у цэнтры, на той самай вуліцы Леніна. Гэтым разам параненых — больш за тры дзясяткі. Шасці асобам давялося рабіць тэрміновыя аперацыі, каб выратаваць жыццё. Праз некалькі гадзінаў пасля выбуху навіны тэлебачання пра падзеі ў Віцебску маўчалі (падзеяй дня быў з'езд БРСМ), і толькі радыё давала скупую інфармацыю.

**«НН» №36, 2005**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 29.09.2015.
Замова №3610.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 15036